# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 24-25 (206-207) — Нядзеля 27 чэрвеня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8


# На вернай службе вялікай ідэі

## У дванаццатую гадавіну з дня трагічнай сьмерці Янкі Купалы

«Духовы правадыр беларускага народу», «Прарок беларускага адраджэньня», «найвялікшы беларускі нацыянальны паэта» — вось тыя галаўнейшыя азначэньні, якімі мы аднагодна характарызуем Янку Купалу ня толькі, як паэту, але і як чалавека й грамадзяніна.

У нацыянальным жыцьці пакрыўджаных гісторыяй народаў, народаў падбітых, паняволеных і асуджаных ворагам на нацыянальную сьмерць, мастацкае слова, песьня, паэзія заўсёды выконвалі асаблівую й часамі вылучную ідэйную функцыю: бывалі нявысыхаючай крыніцай духовае моцы і наймагутнейшай зброяй у змаганьні за існаваньне і паход наперад. І таму нашая мастацкая літаратура эпохі адраджэньня ўспрыймалася намі не як чыстае мастацтва, якое павінна-б было заспакойваць эстэтычныя патрэбы і ўзбуджаць эстэтычныя перажываньні, але бадай выключна, як наймацнейшая зброя ў змаганьні. Такое ўспрыйманьне мастацкае літаратуры і такая ейная ўзапраўдная роля не адыймалі ад яе і ейных артыстычных вартасьцяў. Наадварот, гэта рабіла яе больш праўдзівай, шчырай і непасрэднай. Паэта і патрыёта ды змагар за нацыянальную ідэю, а паэзія і патрыятызм ды змаганьне за лепшую будучыню сталіся ў нас паняцьцямі неразьдзельнымі.

Гэтак мы глядзім на Францішка Багушэвіча, пазьней на Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Цётку, Алеся Гаруна і навет на прыйшоўшага ў нашую літаратуру Жыда Зьмітрака Бядулю і бадай што на ўсіх іншых. Усе яны зьяўляюцца нацыянальнымі паэтамі, палкімі патрыётамі, ідэялёгамі нашага адраджэньня, шчырымі змагарамі за ідэю. Але тытулы «духовы правадыр народу» або «прарок беларускага нацыянальнага адраджэньня» да ніводнага зь іх ніяк ня прыстаюць, а могуць быць аднесеныя толькі да Янкі Купалы. Чаму? — паўстае пытаньне. Даць на яго частковы адказ і зьяўляецца заданьнем гэтага сьціплага артыкулу.

Купалу, як духовага правадыра народу і прарока нацыянальнага адраджэньня вызначае ўжо сам характар і зьмест ягонае творчасьці. Магчыма не памылімся або памылімся ня шмат, калі зарызыкуем цьверджаньне, што беларуская нацыянальная ідэя, парушаная й разьвіваная ўва ўсей сваей складанасьці і многагранnасьці, ахопліваючая ўсе праявы й галіны народнага жыцьця, зьяўляецца бадай што вылучным зьместам Купалавае творчасьці і галоўнай крыніцай ягонага паэтычнага натхненьня. Калі мы прааналізуем папарадку ўсе Купалавы творы, дык зь вялізарнай іхнай колькасьці зможам выдзяліць вельмі мала такіх, у якіх адсутнічала-б нацыянальная ідэя. Знойдзем яе навет у творах чыста прыродаапісальных і эратычных, якія ўжо сваім характарам, здавалася-б, з нацыянальнай ідэяй не павінны былі-б мець нічога супольнага.

Але гэта яшчэ далёка ня ўсё. На духовага правадыра і нацыянальнага прарока прэдыстынуе Купалу галоўным чынам ня колькасьны, але якасны аспэкт ідэйнага зьместу ягоных твораў, такія іхныя мамэнты, як бязьмежная любоў паэты ўсяго роднага, беларускага і арганічная зь ім сувязь, як балючыя цярпеньні з прычыны народнае нядолі, як нязломная вера ў свой народ і ў ягоную будучыню, як магутныя, палонячыя сэрца й волю, прызывы і заклікі, як пераконлівыя прароцтвы народнага вызваленьня і гэтым падобныя рысы. Напасьледак, Купала сьвядомы гэтай сваей вялікай і адказнай ролі, аб чым гаворыць зусім канкрэтна ў многіх сваіх творах.

Гэтыя ўсе асаблівасьці Купалавай творчасьці зьяўляюцца агульна ведамыя і бясспрэчныя. Яны адзназгодна адзначаюцца ўсімі больш уніклівымі крытыкамі твораў Купалы. Дык і мы пяройдзем над імі да парадку дзеннага. Затрымаемся затое над іншым аспэктам жыцьця й творчасьці Купалы, менш адзначаным крытыкаю, які таксама прэдыстынуе Купалу на ролю духовага правадыра. Гэтым аспэктам ёсьць неразрыўная згоднасьць між паэзіяй і жыцьцём Купалы.

Пераважна так бывае, што паэта іншым выступае ў сваей творчасьці і зусім або амаль зусім іншым бывае ў жыцьці. Таму часамі выступаюць вялікія розьніцы між паэтам і чалавекам у адной і тэй самай асобе. Як паэта, ён часта пазуе, а пачуцьці й перажываньні, якімі зьяўляюцца насычаныя ягоныя творы, хоць-бы й мелі ўсе адзнакі шчырасьці, не знаходзяць аднак пацьверджаньня ў ягоным жыцьці й пастунаньнях.

Вось-жа ў Купалы такога раздваеньня няма зусім, няма раздваеньня ягонага «Я». І як паэта і як чалавек-грамадзянін Купала творыць адно неразьдзельнае цэлае.

Вузкія рамы газэтнага артыкулу дазваляюць нам прыпомніць толькі некалькі мамэнтаў з жыцьця й публіцыстычных высказваньняў Купалы, але й іх будзе дастаткова, каб давесьці пастаўленую тэзу.

У 1913 годзе на балонах «Нашае Нівы» паявіўся артыкул В. Ластоўскага «Сплачвайце доўг», аўтар якога заклікаў беларускіх паэтаў, каб яны кінулі апяваць толькі гора і бяду, пакінулі спэцыяльна акцэнтаваць толькі сумныя й адмоўныя бакі Беларусі, а каб апелі й багацьці сваей бацькаўшчыны, «красу жыцьця й прыроды». Адказ на пастаўлены закід даў Купала ў сваім артыкуле «Чаму плачуць нашы песьні» ў № 30 «Нашае Нівы» 1913 г. Зьмест артыкулу вельмі важны для зразуменьня Купалавай творчасьці й вызначанай для сябе ролі паэты. Купала, між іншым, пісаў:

«Паявіліся паэты, песьняры сваёй забытай Богам і людзьмі краіны й народнай долі. Прарокі аны ці не прарокі — пакажа будучыня, але што яны косьць з касьці ад свайго народу — аб гэтым няма сумніву... Ці-ж маглі яны ў першых сваіх словах апяваць толькі красу сваёй бацькаўшчыны, ня глянуўшы спачатку на рэальны быт ейных сыноў? Ясна, што душа паэты перадусім запела аб тым, што ў ёй накіпела за доўгія гады цярпеньня й беспрасьветнай нядолі.

Ня думайце, што «парнасцы» ня бачылі й не адчувалі ўсёй багатай красы нашай зямлі зь ейнымі горамі, далінамі, рэкамі й лясамі. Ды што яны маглі сказаць, калі больш палавіны гэтага прыроднага багацьця, гэтай неапетай красы, была й ёсьць ня нашыя?.. У паэты, каторы бачыў гэтую несправядлівасьць, не магло не зрадзіцца пачуцьцё жалю, суму, што разам з празьмернаю роскашшу ягоны народ мерзьне ў хацінах, дзе «вокны заткнуты анучамі», што ягоныя палоскі — «гразь, балота ды пясок», што людзі — «Янка ды Сымонка» — безбаронныя мужыкі, пакінутыя сваёй інтэлігенцыяй...

Невясёлая сучаснасьць не магла настроіць на вясёлы лад думкі паэты. Душа ягоная лунала над айчынай, — над бязьмежнымі прасторамі, дзе мор і пажары пакінулі на зямлі гурбы непахаваных касьцей, а неба пачарнела ад дыму. Мінулае ўспамінаць — гэта ўспамінаць паншчыну, паколькі нашае свабоднае жыцьцё, калі гудзелі вечавыя званы, прыдушыла ледзь не паўтузіна стагодзьдзяў... І паэт хоцькі-няхоцькі ня мог абмінаць цяперашняе жыцьцё. Не да малітваў, калі хата гарыць. Гэткім, вось, спосабам, не магла не паўстаць крыху, а можа, і празь меру гаротная нашая сучасная песьня; ды яна вечна гэткай ня будзе, як і народ жывы ня будзе вечна спаць сьмяротным сном...

Застаецца нам толькі адна вера ў гэта, што не за гарамі ўжо пара, калі прабудзіцца наш беларускі народ, як адзін, да новага, сьветлага жыцьця, а ягоныя паэты-прарокі настрояць струны сваіх дум на іншы лад: будуць пяяць пра вялікае багацьце й красу сваёй бацькаўшчыны й пра вялікую радасьць ейных верных сыноў».

Прыведзены выжэй у вабшырных вынятках артыкул вымоўна паказвае, наколькі паэзія Купалы была зьвязаная з тагачасным жыцьцём народу, ад якога паэта ніяк ня мог адарвацца і стварыць для сябе іншага, вымроенага ў сваей фантазіі шчасьлівага сьвету. І ён з поўнай сьведамасьцю пісаў так, як дыктавала яму сумная запраўднасьць. Жыцьцё і паэзія былі для яго неразьдзельнымі. І ў гэтым хаваецца сакрэт вялікай праўдзівасьці, шчырасьці і непасрэднасьці ягонае творчасьці, у гэтым ейная фасцынуючая сіла ўзьдзейваньня на чытача.

На іншым месцы гэтага нумару газэты зьмешчаная прамова Купалы, сказаная ў 1920 годзе на сьвяткаваньні ў Менску 15-цігадовага юбілею ягонай творчасьці. Зьмест прамовы зьяўляецца найлепшай ілюстрацыяй ягонай творчасьці і аднагачасна вымоўным доказам, што ўсе тыя ідэйныя матывы Купалавае творчасьці зьяўляліся аднагачасна зьместам ягоных асабістых перажываньняў, як чалавека і грамадзяніна.

Найлепшым і найбольш пераконваючым аднак доказам, што Купала быў у жыцьці сваім такім самым, як і ў сваей паэзіі, зьяўляецца акт ягона гагаракіры ў 1930 годзе. У той час, калі многа беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, заламаўшыся духова пад жудасным ціскам бальшавіцкага тэрору, пачала абліваць памыямі ўсё тое, што было для іх найдаражэйшым, што тварыла найглыбейшы зьмест іхных думак і імкненьняў, ды выхваляць і складаць гымны тым, хто былі іхнымі зацятымі ворагамі, Купала адзін спасярод іх выказаў нязвычайную мужнасьць. Ён выбраў шлях іншы, яшчэ цяжэйшы і трагічнейшы, але затое ганаровы — пры помачы гаракіры, прапорваючы сабе жывот сталовай лыжкай, наважыў пакончыць самагубствам. Паўторным актам свайго самагубства, дакананым дванаццаць год пазьней, у Маскве 28 чэрвеня 1942 году, якое гэтым разам абарвала жыцьцё паэты, Купала поўнасьцю апраўдаў магутную сілу сваей ідэі і пераказаў яе нічым не заплямленай для будучых пакаленьняў у ейнай крыштальнай чысьціні. Падвойным актам свайго самагубства, будучага пратэстам супраць нялюдзкага фізычнага й духовага зьдзеку й нявымоўнай крыўды над сабой і народам, Купала ўратаваў ня толькі свой собскі гонар і чэсьць, але й нацыянальную чэсьць усяе беларускае літаратуры, якой быў найвялікшым прадстаўніком і ідэйным правадыром. Але, што найважнейшае, Купала, апынуўшыся ў жахлівых умовах бальшавіцкае няволі, актам свайго самагубства, якое адзіным было выхадам, апраўдаў сябе, як духовага правадыра народу, і такім для нас астаўся і пасьля сваей трагічнай сьмерці.

У нас прывыклі ўважаць, што Купала, пасьля спробы самагубства ў 1930 годзе, духова заламаўся й, падобна іншым, аддаў сваю сьціплую дань бальшавіцкаму Молаху. Агульна ўважаецца, што апошняе дзесяцігодзьдзе ягонай творчасьці, хоць убогай і мізэрнай і колькасна і якасна, усё-ж ішло па лініі бальшавіцкіх вымогаў. Таму, баронячы й апраўдваючы паэту, у нас старанна вышукваюцца ўсякія лагодзячыя мамэнты, каб гэтым зьменшыць віну Купалы, зьвесьці яе да зусім нязначных разьмераў. На нашую думку, усё гэта ёсьць непатрэбным. Бо ці не пара ўжо паддаць грунтоўнай рэвізіі пагляд на апошняе дзесяцігодзьдзе Купалавай творчасьці, бо пагляд такі несправядліва крыўдзіць і самога Купалу і ўсю беларускую літаратуру дадзенае пары. Самі тэксты Купалавых твораў гэтага часу даюць нам дастаткова матарыялу, каб вырабіць іншае перакананьне аб Купале.

У пэрыяд між дваццатымі й трыццатымі гадамі талент Купалы дасягае вышыні сваей дасьпеласьці і артыстычнай дасканаласьці. Характэрныя для ранейшых пэрыядаў патос і пераладаваньне рознымі стылістычнымі фігурамі, уласьцівымі й вялікім, але яшчэ не дайшоў-

(Заканчэньне на 2-ой балоне)



*Янка Купала*

# Паўстань з народу нашага, Прарок!

**Паўстань з народу нашага, Прарок,**
**Праявеаў бураломных варажбіт,**
**І мудрым словам сьпінь з народу ўрок,**
**Якім быў век праз ворагаў спавіт.**

**Зьбяры ў вадну ўсю Беларусь сям'ю,**
**Вазьмі зь яе прысягу і зарок,**
**Што не прадасьць сябе, сваю зямлю...**
**Зьняць путы бацькаўшчыне ўстань, Прарок...**

*

**Паўстань з народу нашага, Пясьняр,**
**Былых і будучых вякоў, Баян,**
**І ў бурны кліч, як буры ўдар,**
**Зь віхрамі загудзі пад звон кайдан!**

**Гудзі па Беларусі з краю ў край,**
**У сэрцах сьпячых распалі пажар,**
**Над курганамі пяруном зайграй.**
**Збудзіць нябожчыкаў паўстань, Пясьняр.**

*

**Паўстань з народу нашага, Ваяк,**
**І волатам на вогненым кані**
**Народ аграблены — бы з торб жабрак —**
**За бацькаўшчыну павядзі ў вагні.**

**Да хвалы шлях айчыне пакажы,**
**Зьмяці з палёў яе чужых бадзяк,**
**На стражы стань гранічнае мяжы...**
**Свой край заваяваць устань, Ваяк!**

*

**Паўстань з народу нашага, Ўладар,**
**Адбудаваць свой збураны пасад,**
**Бо твой народ забыў, хто гаспадар**
**І хто яго абдзёр з каронных шат.**

**На Ўладара жджэ Беларусь даўно,**
**І жджэ цябе ўладарства Божы дар,**
**Вялікае, магутнае яно...**
**Пад беларускі сьцяг прыдзі, Ўладар!**

Карльсбэрг, 28. 8. 1919

**ЯНКА КУПАЛА**

# На вернай службе вялікай ідэі

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

шым да зэніту свайго разьвіцьця талентам, зьнікаюць амаль зусім. Верш вызначаецца спакоем, зраўнаважанасьцю і нязвычайнай прасьцінёй, якая, аднак, ня мае найменшых азнакаў прымітывізму. але зьяўляецца высокае якасьці мастацкім прыёмам. Гэтая асаблівасьць Купалавай творчасьці шырака выявілася ў зборніку «Безназоўнае» і ў шмат якіх вершах пазьнейшых, у тым ліку і ў ведамым вершы-элегіі «Зыходзіш вёска зь яснай явы». Гэтая рыса, здавалася-б, мусіла астацца і пасьля 1930 году, так як Купала і фізычна і духова быў яшчэ ў росквіце сваіх сілаў.

Тымчасам пасьля 1930 году ў тых Купалавых творах, у якіх змушаны быў апяваць савецкую запраўднасьць, ужо не мастацкая прасьціна, а вульгарны прымітывізм гучыць прыкрым дысанансам. Энтузіястыя Купалавых твораў ня могуць паверыць, што выйшлі яны з пад ягонага пяра. Дасканалым прыкладам такога вымушанага літаратурнага рамясла ў найгоршым значэньні гэтага слова зьяўляецца ведамая паэма Купалы «Над ракой Арэсай». Пісьменьнік Юрка Віцьбіч, які ў той час быў у блізкім кантакце з Купалам, у сваім літаратурным нарысе-ўспаміне «Завулак імя Янкі Купалы» («Бацькаўшчына», № 25—26, 1952) расказвае, як у 1932 г. ў Доме Пісьменьніка ў Менску адбываўся даклад аб Сталінскай канстытуцыі, а ў падвале, дзе знаходзіўся рэстаран, сядзелі за куфлем піва тры маладыя беларускія паэты, пазьней усе зьнішчаныя бальшавікамі: Алесь Дудар, Уладзімер Хадыка і Валеры Маракоў. Раптам зьявіўся Купала і завязалася наступная гутарка:

«— Дзядзька Купала, прачытайце нам што-небудзь сваё новае. І Купала прачытаў першы разьдзел свае новае паэмы «Над ракой Арэсай». Паэма была прысьвечаная будаўніцтву камуны на Палесьсі і зьяўлялася спробай паэты зразумець савецкую рэчаіснасьць. Тры маладзейшыя паэты ніколі яшчэ нічога ня чулі больш убогага па форме і па зьместу. Ім сталася сумна і страшна. Ім сталася балюча за Янку Купалу. Скончыўшы, ён запытальна паглядзеў на іх, што стараліся не глядзець яму ў вочы. Яны вельмі любілі Янку Купалу, каб сказаць яму праўду. І тады ён хутка ўстаў:

— Дзякую за шчырасьць, — падняўшы руку да паверхаў, дадаў:

— А там ёй захапляюцца».

Магло быць адно з двух: або Купала, мушаны апяваць тое, чаго ненавідзеў, ня мог узьняцца навет да перасечнае яму мастацкае ўзроўні, або, што больш праўдападобна, спэцыяльна напісаў паэму бязвартасную, каб гэтым падчыркнуць свае нэгатыўныя дачыненьні да апісванага ў ёй прадмету. І ў вадным і ў другім выпадку астаецца факт, што паэта, калі й даваў дань бальшавіцкаму Молаху, дык даваў найгоршае ў зусім бязвартаснае.

Другім прыёмам Купалы, каб выйсьці з клапатлівага палажэньня, была часта ім практыказаная манера гую або іншую зьяву з савецкае запраўднасьці ўзяць толькі за вонкавы фэн верша і на гэтым фоне пісаць аб рэчах, палітычна зусім нэўтральных. Добрым прыкладам такой манеры зьяўляецца расхвалены савецкай крытыкай і навет уведзены ў школьныя чытанкі твор п. н. «Лён». Калгас і калгасная праца твораць тут толькі гэты вонкавы фон, на якім разьвіваюцца любоўныя пачуцьці маладой калгасьніцы да «брыгадзіра Міхася». Ніякага выхваляньня калгаснай сыстэмы ані наагул бальшавіцкай прапаганды тут няма.

І напасьледак трэйці спосаб, пры помачы якога паэта ўмеў выказваць пачуцьці, адваротныя да непасрэднага значэньня ўжываных словаў, зьяўляецца глыбака замаскаваная, але войстрая й зьядлівая іронія. Гэтак свой верш прысьвечаны Сталіну «Табе, правадыр», які казённай крытыкай інтэрпрэтуецца, як выражэньне глыбокай і шчырай любові паэты да «бацькі» і «вучыцеля», пачынаецца наступнай строфкай:

Табе, Правадыр, мае песьні і думы  
І шчырыя шчырага сэрца парывы.  
Бо хто калі знаў і хто калі думаў,  
Што буду я вольны, што буду шчасьлівы.

Трэба мець абмежаваную інтэлігенцыю, каб ня вычуць у строфцы гэтай і далейшых зьядлівае іроніі, а словы з апошняга радка «вольны» і «шчасьлівы» так і просяцца, каб узяць іх у двукосьсі, як выражаючыя зусім адваротныя паняцьці.

Прыведзеныя выжэй прыклады і іх інтэрпрэтацыя — гэта толькі павярхоўная спроба паказаць, што творы Купалы, напісаныя ім пасьля 1930 году. трэба, як кажуць, чытаць між радкамі і што можна ў іх шмат чаго вычытаць. Калі з гэтага гледзішча паддаць іх грунтоўнай і ўніклівай аналізе, дык, трэба спадзявацца, зусім ня знойдзецца падставаў цьвердзіць аб духовым заламаньні паэты і аб ягонай вымушанай дані, як і ня будзе ніякай патрэбы шукаць якіх-небудзь лагодзячых і ўспраўядліўляючых акалічнасьцяў. Купала і ў творчасьці сваей і ў жыцьці сваім быў і астаўся сваім ідэялам бязьмежна верным і духова непахісным. Прызнаны яму ўсім народам пачэсны тытул духовага правадыра і прарока зьяўляецца поўнасьцю заслужаны, нічым нясплямлены і астанецца за ім назаўсёды.

**Язэп Каранеўскі**

*Палітычныя камэнтары*

# Напярэдадні вялікіх вырашэньняў

Такія мамэнты ў міжнароднай палітыцы, калі найбліжэйшыя дні й тыдні мусяць прынесьці разьвязку цэлага раду першарадных міжнародных праблемаў, навет у вапоішнім пэрыядзе найбольш напружанага міжнароднага палажэньня й вялікай дыпляматычнай актыўнасьці бываюць ня часта. Бо вось на парадку дня міжнароднае палітыкі стаяць адначасна такія важныя пытаньні, такое або іншае разьвязаньне якіх можа заважыць на тым, хто выйдзе на нейкі час пераможнікам у цяперашняй фазе халоднай вайны: дэмакратычны Захад ці камуністычны Ўсход. Гэтыя пытаньні наступныя: 1. канчальныя вынікі Жэнэўскай канфэрэнцыі: 2. далейшая пазыцыя Францыі; 3. брытанска-амэрыканскія супярэчнасьці: 4. вынікі дамашняй вайны ў Гуатэмалі і 5. справа наданьня поўнага сувэрэнітэту Заходняй Нямеччыне. Усе гэтыя справы зьяўляюцца цесна між сабой павязаныя й твораць толькі паасобныя вязьмы ў вадным і тым самым ланцугу.

## I. ПЕРАМІР'Е ЦІ ПРАДАЎЖЭНЬНЕ ВАЙНЫ Ў ІНДАКІТАІ?

Жэнэўская канфэрэнцыя, якая цягнецца ўжо цэлыя два месяцы, як ведама, мела вырашыць два пытаньні: карэйскае і індакітайскае. Сяньня ўжо зусім ясна, што пытаньне Карэі вырашаным і гэтым разам у ніякім выпадку ня будзе і яно ўжо адыйшло ў цень. Асталася справа Індакітаю. але ў ёй выявіліся такія супярэчнасьці ня толькі між Захадам і Ўсходам, але і ў лягеры заходнім, што мала асталася, каб канфэрэнцыя сарвалася і ейныя ўдзельнікі разьехаліся зь нічым. Ратуюць канфэрэнцыю ад канчальнае сьмерці з аднаго боку камуністыя, якім залежыць на ейным працягваньні і тарпэдаваньні такім спосабам абаронных мерапрыемстваў Захаду ў Індакітаі, а з другога боку брытанскі міністар замежных справаў Ідэн. які, прыняўшы на сябе незавідную ролю піянэра шуканьня супольнай мовы з камуністымі амаль за ўсякую цану, ня траціць яшчэ веры, што можна дайсьці да нейкага паразуменьня ў індакітайскім пытаньні.

Дыскусія ў справе Індакітаю дасягнула такога стану, што трэба чакаць аднэй з наступных дзьвюх мажлівых разьвязак: або камуністыя прыймуць капітуляцыю Захаду й згодзяцца на перамір'е на аснове падзелу Ветнаму на часьць камуністычную і некамуністычную (кітайскі міністар замежных справаў Чу-Эн-Ляй ужо згадзіўся прыняць за лінію такога падзелу 16-ую паралелю) або сваёй няўступлівасьцю й што раз новымі дамаганьнямі справакуюць сарваньне канфэрэнцыі з тым, што, пакуль Захад здабудзецца на адпаведную інтэрвэнцыю, будзе ўжо пастаўлены перад дакананым фактам, бо ў камуністычных руках апынецца ўвесь Індакітай. У першым выпадку перамагла-б канцэпцыя апанаваньня камуністымі Індакітаю на раты, у другім — апанаваньня яго адразу.

Але гэты другі плян мог-бы для камуністых стацца даволі рызыкоўным, бо зусім магчыма, што Амэрыка наважылася-б тады на вайсковую інтэрвэнцыю навет бязь Вялікабрытаніі. Незалежна ад таго, якая з гэтых дзьвюх канцэпцыяў возьме верх, адно ёсьць ясным, што ў індакітайскай вайне Захад панёс вялікія няўдачы стратэгічныя, а палітычна яе прайграў поўнасьцю. Прычынаю ўсіх няўдачаў былі вялізарныя разыходжаньні ў заходнім лягеры, галоўна між Вялікабрытаніяй і Амэрыкай. Калі-б усе тры заходнія дзяржавы выступалі ў Жэнэве станоўча і салідарна, як перад гэтым у Бэрліне, палажэньне было-б бясспрэчна іншае. Вялікабрытанія, якая сьвядома зламала адзінства Захаду, выходзіць з Жэнэвы моцна абцяжанай вялікай гістарычнай адказнасьцю.

## II. КУДЫ ПОЙДЗЕ ФРАНЦЫЯ?

У Амэрыцы выклікае вялікае занепакаеньне пытаньне, якое становішча ў справе Індакітаю займе новы ўрад Францыі, на чале якога стаў радыкальны сацыялісты Мэндэс-Франс і які падчас галасаваньня ў нацыянальным сабраньні над сваей інвэстытурай атрымаў вотум даверу 419 галасамі супраць 47. Навет усіх 95 камуністычных дэпутатаў галасавала за давер для новага ўраду. У гэтым урадзе пераважаюць радыкальныя сацыялістыя і былыя дэгалістыя, як адныя, гэтак і другія наважаныя праціўнікі эўрапэйскай абароннай супольнасьці. Прычына такога хуткага заканчэньня ўрадавага крызісу і атрыманьня новым урадам даверу такой вялікай бальшыні галасоў, — адно і другое ў францускіх умовах зьяўляецца нечым неспадзяваным — ляжыць у тым, што Мэндэз-Франс згадзіўся быць прэм'ерам пад важнай умовай: або на працягу аднаго месяца ён давядзе да «ганаровага» для Францыі заканчэньня індакітайскай вайны, або, у праціўным выпадку, сам уступіць із свайго становішча найпазьней 20 ліпеня сёлета.

Прэм'ер Мэндэз-Франс ужо 23 чэрвеня меў у Бэрне нараду зь кітайскім прэм'ерам і міністрам замежных справаў Чу-Эн-Ляем у справе ўмоваў індакітайскага перамір'я. На Захадзе сур'ёзна баяцца, што камуністыя будуць дамагацца за гэтае перамір'е высокай цаны: ня толькі вызнаньня Францыяй пэкінскага камуністычнага ўраду, якога Францыя, падобна як і Амэрыка, дагэтуль ня вызнавала, але й выламаньня яе з заходняга антыкамуністычнага фронту ў Эўропе. Ёсьць небясьпека, што гэтую вялізарную цану Францыя можа заплаціць. Вось чаму дэцызія новага францускага ўраду, якая мае быць прынятая перад 20 ліпенем, можа мець калясальнае значэньне для далейшага лёсу эўрапэйскага адзінства.

## III. КАНФЭРЭНЦЫЯ АЙЗЭНГАЎЭР—ЧЭРЧЫЛЬ

Далейшае супрацоўніцтва Вялікабрытаніі з Амэрыкай таксама знаходзіцца пад вялікім знакам запытаньня. Англа-амэрыканскія разыходжаньні моцна завастрыліся яшчэ перад Жэнэўскай канфэрэнцыяй, калі Вялікабрытанія катэгарычна адкінула амэрыканскі плян інтэрвэньяваць у Індакітаі, пакуль ня скончыцца канфэрэнцыя ў Жэнэве. Падчас самой канфэрэнцыі гэтыя супярэчнасьці з прычыны далёка пасунутай кампрамісовасьці Ідэна значна паглыбіліся. Яшчэ 20 красавіка прэзыдэнт Айзэнгаўэр запрасіў Чэрчыля ў Вашынгтон дзеля ўзгадненьня пазыцыяў абедзьвюх англасаскіх дзяржаваў. Але ангельскі прэм'ер зь візытай сваёй у Вашынгтон не сьпяшаўся, чакаючы, што прынясе Жэнэўская канфэрэнцыя. Тымчасам не чакаючы ейнага заканчэньня, Чэрчыль зь Ідэнам 25 чэрвеня прыляцелі ў Вашынгтон і ў той-жа самы дзень распачаліся нарады з Айзэнгаўэрам і Дальлесам, у цэнтры ўвагі якіх стаяць справы Індакітаю і забясьпечаньня паўдзённа-ўсходняй Азіі.

На першы пагляд можна было-б думаць, што Чэрчыль і Ідэн, дэцыдуючыся на гэтую візыту яшчэ перад заканчэньнем Жэнэўскіх нарадаў, прызналі няўдачу сваей дасюлешняй палітыкі й схіляюцца прыняць амэрыканскія пляны ў справе абароны паўдзённа-ўсходняй Азіі. Тымчасам гэтак ня ёсьць, бо брытанскія дзяржаўныя мужы прыляцелі ў Вашынгтон із сваім собскім плянам, супярэчным з плянамі амэрыканскімі.

Амэрыканскі плян прадбачыць стварэньне паўдзённа-азіяцкага абароннага пакту з удзелам саюзных дзяржаваў Японіі, Сыяму, нацыянальнага Кітаю, Філіпінаў, Ляёсу, Камбоджы, а можа й Ветнаму ды Паўдзённай Карэі. Гэты абаронны пакт, падобна як Атлянтычны пакт ў Эўропе, пры амэрыканскай вайсковай дапамозе мог-бы пасьпяхова супрацьставіцца далейшаму пашырэньню камуністычнай агрэсіі ў паўдзённа-ўсходняй Азіі. Вялікабрытанія, выказваючыся супраць такога праекту, бо ён завойстрыць дачыненьні з камуністычнымі краінамі, выпрацавала свой собскі плян, які падаў да ведама Ідэн у сваей прамове ў ніжняй палаце напярэдадні свайго палёту ў Вашынгтон. Паводля гэтага пляну, паўдзённа-азіяцкія нэўтральныя краіны, як Індыя, Цэйлён, Бурма і Інданэзія заключылі-б з камуністычнымі краінамі Азіі пакт узаемнае бясьпечнасьці на ўзор даваеннага пакту ў Лёкарно між Нямеччынай, Францыяй і Бэльгіяй, у якім Вялікабрытанія прыняла на сябе забавязаньне збройна падтрымаць тую дзяржаву, зьвязаную пактам, якая сталася-б прадметам агрэсіі з боку іншае дзяржавы. Бачым тады, што брытанскі праект азіяцкага Лёкарно нічым фактычна ня розьніцца ад нядаўнага ня менш незадачлівага праекту Чэрчыля даць Савецкаму Саюзу гарантыі бясьпечнасьці перад эвэнтуальнай загрозай імпэрыялізму зрэмілітарызаванай Нямеччыны, якіх Крэмль навет ня прыняў.

Бачым тады, што абодвы праекты — амэрыканскі й брытанскі зьяўляюцца дыямэтральна розныя. Таму няма ніякіх шансаў, каб адзін зь іх быў поўнасьцю прыняты абодвымі партнэрамі, а другі адкінуты. У найлепшым выпадку можа быць дасягнуты, як часта бывала перад гэтым, нейкі кампраміс у мала істотных справах пры далейшым існаваньні разыходжаньняў у справах найбольш прынцыповых. Таму пытаньне салідарнасьці й супрацоўніцтва між Вашынгтонам і Лёнданем ёсьць выстаўленае на вялікую й цяжкую пробу.

## IV. МІЖНАРОДНЫ АСПЭКТ ПАДЗЕЯЎ У ГУАТЭМАЛІ

Дамашнія войны і ўрадавыя перавароты ў краінах лацінскай Амэрыкі належаць да такіх частых і амаль штодзенных зьявішчаў, што ў сьвеце да іх ужо прывыклі й часамі ніхто на гэта не зьвяртае асаблівае ўвагі. Цяперашняя-ж дамашняя вайна ў Гуатэмалі адразу была ўцягнутая ў ігру між Захадам і Ўсходам і дзеля гэтага набрала міжнароднага значэньня.

Гуатэмаля — гэта невялікая рэспубліка Сярэдняе Амэрыкі з трохмільённым насельніцтвам, якая ляжыць у непасрэдным суседзтве з Панамскім каналам, які зьяўляецца собскасьцю ЗША і мае вялізарнае стратэгічнае значэньне. Ад даўжэйшага часу, відаць, у сувязі з гэтым, уладу ў краіне захапілі камуністыя на чале з прэзыдэнтам дзяржавы Арбэнсам. Саветы пастанавілі выкарыстаць гэтую сытуацыю і стварыць у Гуатэмалі сваю ваенную выпадовую базу супраць ЗША, а нядаўная тайная высылка на швэдзкім караблі савецкага аружжа ў Гуатэмалю з польскага порту Шчэцін пацьвердзіла, што Саветы ня думаюць доўга чакаць з выкарыстаньнем Гуатэмалі для сваіх агрэсыўных плянаў.

Але вось 18 чэрвеня з суседняй краіны Гондурас напала на Гуатэмалю армія гуатэмальскіх паўстанцаў, сфармаваная з палітычных эмігрантаў з Гуатэмалі, якая мае добрае ўзбраеньне, собскія самалёты і налічвае да 6.000 жаўнераў супраць арміі камуністычнай, якая мае каля 7.000 чалавек. Саветы, як і трэба было спадзявацца. абвінавацілі ЗША, што гэта яны інсьпіравалі і прыгатавалі акт агрэсіі супраць Гуатэмалі, а камуністычны ўрад Гуатэмалі зажадаў скліканьня ў гэтай справе Рады Бясьпечнасьці. Але Рада Бясьпечнасьці, сабраўшыся 20 чэрвеня, сьцьвердзіла, што ў Гуатэмалі мае месца не агрэсія звонку, але дамашняя вайна, і таму справу гэтую пастанавіла перадаць камісіі арганізацыі амэрыканскіх дзяржаваў. Але супраць гэтай пастановы Савецкі Саюз зляжыў сваё вэто, ужо 61-ае з чаргі ад паўстаньня Задзіночаных Нацыяў.

Апошнія весткі з гуатэмальскага фронту зьяўляюцца на столькі супярэчныя, што цяжка судзіць, на чыім баку знаходзіцца ваенная перавага. Далейшая справа будзе камплікавацца яшчэ ў сувязі з тым, што некаторыя паўдзённаамэрыканскія дзяржавы заявілі аб сваей салідарнасьці з камуністычным урадам Гуатэмалі і разглядаюць антыкамуністычнае паўстаньне, як акт вонкавай агрэсіі. Вынік гуатэмальскай вайны будзе мець вялізарнае міжнароднае значэньне, а ў першую чаргу для абароны ЗША: ён задэцыдуе, ці Саветы прыдбаюць сабе патрэбнага для іх сатэліта на амэрыканскім кантынэньце ці не. А таму апошнія падзеі ў Гуатэмалі ўплятаюцца непасрэдна ў заблытаны вузёл ігры між Усходам і Захадам.

(Заканчэньне на 3-ай балоне)

# Адна Купалава прамова

**Янка Купала быў дрэнным аратарам і з прамовамі выступаў вельмі неахвотна. Калі на розных зборках і ўрачыстасьцях прысутныя зьвярталіся да яго з просьбай, каб прамовіў да іх пару словаў, Купала, звычайна замест прамовы, выймаў зь кішані лісток паперы з нованапісаным вершам і манатонным, аднастайным тонам, — бо і дэкляматар зь яго быў няважны — чытаў яго перад заляй. Таму тэксты ягоных прамоваў, якія захаваліся, зьяўляюцца, падобна як і публіцыстычныя артыкулы, унікатамі.**

**Ніжэй перадрукоўваем тэкст аднэй такой ягонай прамовы, вельмі мала каму сяньня ведамы, якую ён сказаў на ўрачыстым банкеце 24 чэрвеня 1920 году ў Менску ў прысутнасьці каля 100 прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў, пісьменьнікаў і палітычных дзеячоў з нагоды 15-цігодняга юбілею сваей творчасьці. Прамова гэтая адбівае моцную Купалаву веру ў свой народ і ягоную сьветлую будучыню, і таму зьяўляецца цэнным камэнтарам да бадзёрага й аптымістычнага тону ягонае творчасьці дадзенае пары.**

*

**Дарагія Грамадзянкі й Грамадзяне зямлі Беларускай!**

Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоньняшні дзень мне й маей пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай! Але толькі павінен я тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца, яна адносіцца да шмат каго з прысутных тут, адносіцца да ўсяго апошніх часоў руху ў беларускім адраджэньні. Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызваленьня з паднявольля Беларусі лунае й пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.

Трудны й цярністы шлях прышлося прайсьці нам, Беларусам, за гэты час змаганьня за лепшую долю, за лепшую славу для сваей Бацькаўшчыны.

Але мы змагаліся, змагаемся й будзем змагацца. І наша змаганьне не асталося бязь сьледу. Мы самі сьветкамі таго, што кінутыя мазалістай беларускай рукой здаровыя зерняты зарунеліся на нашых вачох буйнай цьвяцістай руняй, ад якой можна сьмела чакаць ураджайнага жніва.

Ні адно на сьвеце адраджэньне народу, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэньня беларускага народу.

І сапраўды. Што было пятнаццаць гадоў таму назад і што мы бачым цяпер? — Пятнаццаць гадоў таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць — адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы бацькаўшчыну ,а сягоньня бяз малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызваленьня. Пятнаццаць гадоў таму назад аб незалежнасьці й падумаць было небясьпечна — сягоньня нашыя дужэйшыя суседзі самі аб гэтым падзяржаўнаму гавораць з намі, як з народам, каторы заслужыў па людзкаму й Божаму праву гэту незалежнасьць.

Арлінным узмахам агняцьветнай думкі аб нашай волі мы ськінулі і патапталі даўгавечную брахню, — брахню, што Беларусі ня было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае па сонца, мы паказалі сьвету, што Беларусь была, ёсьць і будзе.

Хай Вас, Браты Беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час. Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля й воля народная. Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ сьвіст мяча, і настане сьветлы радасны дзень змучанага аграбленага народу.

Хай Вас не палохае, што рвуць нашую зямлю на часьці, што хаты нашы спалосканы пажарам, што сяўбу нашу жне нехта іншы, — зямля, засееная касьцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён сам будзе жаць. Хай толькі асьвеціць Вас адна вялікая думка, — аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыцьцё, калі яна Вас да гэтага пакліча.

На беларускай зямлі было і цяпер ёсьць шмат хвальшывых пракрокаў, шмат рэнэгацкіх душ, што за ласку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе й свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца. У вадным з псальмаў біблійных сказана: «стануў Бог у зграмаджэньні Багоў і паміж Богамі суды судзіць». Будзем верыць, што ў нас Беларусаў прыйдуць новыя людзі. новыя прарокі й будуць пабожаму над хвальшывымі прарокамі й прадажнымі душамі суды судзіць, з пакаленьня ў пакаленьне пракляцьцем успамінаць.

Дык не зважайма на здраду, а пойдзем далей сваім, хоць цярністым, але сьвятляным шляхам, па якім дагэтуль ішлі; зь верай і надзеяй будзем ісьці к лепшай ясьнейшай будучыні, к таму вечнаму сонцу праўды й справядлівасьці для ўсіх і для кожнага паасобку, і будзе на Беларусі не такое сьвята, якое мы цяпер сьвяткуем.

Верце, што мы зьяўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песьні, чудатворчай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыцьцё. У гэтых чарах, у гэтым выяўленьні бясьсьмертнага чалавечага духа — наша пабеда, наша слава й шчасьце — цяпер і ў будучыні.

Пяруновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісываць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.

З квяцістымі сонечнымі думкамі, зь нязломнай верай у лепшую долю й волю, пойдзем усё наперад і наперад пад сьвятым сьцягам вольнай Беларусі.

Змагайся й стань вольным, Беларускі Народ!

**МЕСЯЦ ЛІПЕНЬ - МЕСЯЦАМ БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ. ПАЧЭСНЫМ АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ДАЦЬ СКЛАДКУ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ.**

# Памяці Аўгена Гегечкоры

12 чэрвеня сёлета адбыліся пахароны вядомага грамадзкага й палітычнага дзеяча, змагара за волю Грузіі — міністра замежных справаў Аўгена Пятровіча Гегечкоры.

Амаль уся палітычная дзейнасьць і жыцьцё Аўгена Гегечкоры прайшлі на адкрытай грамадзкай арэне. Нарадзіўся Аўген Гегечкоры ў 1882 годзе ў сяле Мартвілі, у Мінгрэліі, у сям'і дробнага двараніна. Сярэднюю асьвету атрымаў ён у Кутаіскай гімназіі, а потым закончыў юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Яшчэ з школьнай лавы прыймаў удзел у рэвалюцыйнай дзейнасьці.

Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту ў 1907 годзе малады Гегечкоры быў выбраны ў Трэйцюю Дзяржаўную Думу ад Кутаіскай губэрні, як кандыдат сацыялдэмакратычнай партыі.

Разам зь Мікалаем Чхеідзе сваімі бліскучымі аратарскімі здольнасьцямі й сьмелымі выступленьнямі ён шыбка выбіўся ўверх. Асабліва надзвычайным было ягонае выступленьне ў вабароне прыгнечаных народаў, асабліва Фінляндыі, якую царскі ўрад меў абмежаваць у правох. Ягоная зьмястоўная прадуманая прамова ў гэтым пытаньні, якую ён сказаў зь вялікім усхваляваньнем, адразу прыдбала яму славу бліскучага аратара і вялікага палітычнага дзеяча. Пасьля Трэйцяй Думы, Гегечкоры ўзноў вяртаецца да партыйнай працы і выступае на шырокае грамадзкае поле толькі пасьля Лютаўскай рэвалюцыі. Тады яму прыпала адказная роля.

Ягоныя выступленьні ў пытаньнях Упраўленьня Каўказу і раскрыцьцё русыфікатарскай палітыкі каўкаскіх намесьнікаў выклікалі буру незадаваленьня ў правым сэктары Дзяржаўнай Думы і на яго пасыпаліся з усіх бакоў рэплікі з дакорам у правінцыйным (чыста нацыянальным) шавінізьме.

Каўкаская адміністрацыя была асабліва зьбянтэжаная выступамі гэтага маладога шматабяцаючага аратара. Яна прылажыла ўсе высілкі, каб не дапусьціць яго да выбараў у Чацьвертую Дзяржаўную Думу. З гэтай мэтай рад выбіральнікаў, прыбочнікаў СД дапутатаў, былі бяз усякай падставы апратэставаныя і пратэсты былі разгледжаныя толькі пасьля заканчэньня выбараў, калі ўстанаўленьне іхных правоў траціла ўсякае практычнае значэньне.

Такім чынам у 1912 годзе Аўген Гегечкоры вярнуўся да сваей адвакацкай практыкі ў Кутаісі і вёў партыйную работу ў радох Грузінскай СД партыі.

На шырокую арэну ён выступіў узноў толькі пасьля Лютаўскай рэвалюцыі. Ягоная рэпутацыя, як выдатнага грамадзкага дзеяча, была ў гэты час ужо моцна ўстаноўленая.

У рэвалюцыйных арганізацыях, што паўсталі пасьля лютага 1917 году, ён адыйгрываў вялізарную ролю і карыстаўся шырокай папулярнасьцю. Дзеля гэтага для нікога ня было навінай, калі на пачатку 1918 году, пасьля разагнаньня бальшавікамі Ўсерасейскага Ўстаноўчага Сабраньня, калі анархія і хаос ахапілі ўсю тэрыторыю Расеі і калі на руінах імпэрыі народы пастанавілі стварыць свае собскія ўрады, ягоная кандыдатура была аднагалосна высунутая ўсімі адказнымі прадстаўнікамі Грузінскага, Армянскага і Азэрбайджанскага народаў на становішча старшыні новастворанага Закаўкаскага Ўраду. Адказная роля выпала на долю Аўгена Гегечкоры — абараніць Закаўказьзе ад анархіі і грамадзянскай вайны. І ён зь вялікім тактам і энэргіяю прыступіў да выкананьня сваіх новых і цяжкіх абавязкаў.

Узгодненай дзейнасьцю новастворанага ўраду зь дзейнасьцю рэвалюцыйных арганізацыяў і з пастановамі Закаўкаскага Сойму, куды ўходзілі поруч з трыма закаўкаскімі нацыямі прадстаўнікі расейскай мяншыні, была праароблена вялізарная работа ў усіх галінах. Амаль бязбольна была праведзеная эвакуацыя збальшавізаванай арміі, што ўцякала з каўкаскага фронту. Закаўказьзе ўнікла грамадзянскай вайны. Было праведзена рад спэцыяльных рэформаў, у тым ліку закон аб зямельнай рэформе, якой зь вялікім нецярпеньнем чакалі сяляне. Гэты закон прадбачыў канфіскацыю маёнткаў вялікіх земляўласьнікаў. Пры чым 15 дзесяцін усё-ж такі пакідалася да распараджэньня собсьніка, а астальныя землі перадаваліся малазямельным сялянам. Трэба прызнаць, што гэта была ці не найцяжэйшая эпоха рэвалюцыі. Гэта быў час Берасьцейскага міру, які прынёс адносны парадак на ўкраінскіх этнаграфічных землях, затое на землях іншых народаў, што нядаўна ўваходзілі ў склад расейскай імпэрыі, за выключэньнем Закаўказьзя, гэта быў пэрыяд анархіі, разброду, нутраных і вонкавых ускладненьняў. Пяць месяцаў дзейнасьці Закаўкаскага ўраду мінула ў бесьперапынным змаганьні за захаваньне завяяваных свабодаў і ўтрыманьне парадку ў краіне.

Пасьля абвешчаньня незалежнасьці Грузіі Аўген Гегечкоры ўвайшоў у склад ураду Н. Жорданія, як Міністар Замежных справаў і на гэтым становішчы астаўся аж да канца дзейнасьці ўраду на родных землях.

Ён вёў на працягу трох год вялізарную работу з мэтаю ўстанаўленьня прыязных дачыненьняў зь іншымі народамі Каўказу. За гэты час быў падпісаны ваенны саюз з Азэрбайджанам, адбываліся перагаворы зь белымі і чырвонымі генэраламі, калі небясьпека грамадзянскай вайны набліжалася да межаў Грузіі і Гегечкоры заўсёды ўдавалася ўратаваць сваю Бацькаўшчыну ад уваходу вонкавых сілаў. У гэты самы час Гегечкоры рабіў стараньні ў кірунку юрыдычнага вызнаньня Грузінскай рэспублікі краінамі Антанты. І гэтыя стараньні ўкаранаваліся пасьпехам на пачатку 1921 году.

Цэлае жыцьцё Аўгена Гегечкоры на працягу некалькіх дзесяткаў год цесна сплялося зь гісторыяй яго народу. Таму якраз ягоная асабістая біяграфія мае характар летапісу падзеяў ягонай бацькаўшчыны.

Калі-ж бальшавікі ўварваліся ў Грузію і захапілі там уладу, Гегечкоры разам зь іншымі сябрамі ўраду выехаў за мяжу, дзе няўтомна прадаўжаў сваю працу для справы аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці Грузіі.

Аўген Гегечкоры скрозь і заўсёды быў няпрымірлівым антыбальшавіком, а пасьля захапленьня камуністымі ўлады ў Грузіі ён стаў няпрымірлівым ворагам дзікага камуністычнага рэжыму. Зьмена формаў змаганьня супраць камунізму змусіла Гегечкоры ўзяцца за асьведамленьне эўрапэйскай публічнай апініі. Супрацоўнічаючы ў грузінскіх эміграцкіх выданьнях, як знаток у пытаньнях міжнароднай палітыкі, яму прыйшлося шмат зрабіць, каб пераканаць публічную апінію Захаду ў рэакцыйнасьці й імпэрыялістычных імкненьнях маскоўскіх камуністых. Аўген Гегечкоры быў адным з тых публіцыстых, які раскрываў нутраны зьмест тэорыі й практыкі бальшавізму зь вялікай пераконлівасьцю, красамоўнасьцю і тэмпэрамэнтам. Дзейнасьць Гегечкоры на эміграцыі шмат спрыяла таму, каб пазбавіць бальшавіцкі рэжым магчымых уплываў на адказныя палітычныя дзейнікі паваеннай Эўропы. У грамадзкую сьвядомасьць заходняга сьвету дзейнасьць Гегечкоры разам зь дзейнасьцю іншых прадстаўнікоў паняволеных народаў унесла і ўзмоцніла перакананьне, што бальшавізм зьяўляецца чорнай рэакцыйнай сілай, якая зьнішчае нацыянальную свабоду й правы чалавека.

Другі бок дзейнасьці Гегечкоры датычыўся зьдзейсьненьня імкненьня задзіночыць прадстаўнікоў усіх паняволеных народаў з мэтаю супольнага выступленьня супраць крэмлёўскай таталітарнай дыктатуры. Ня дзіўна, што пагляды Гегечкоры і ягоных прыяцеляў з грузінскага незалежніцкага руху былі наўперад сьціраваныя на задзіночаньне народаў Каўказу. Ня дзіўна таксама, што ён прыдаваў вялікае значэньне ўсім формам задзіночаньня прадстаўніцтваў народаў, паняволеных камуністымі. У ўсіх такіх задзіночаньнях ён прыймаў найжывейшы ўдзел.

Гэта датычыцца наўперад да ягонага ўдзелу ў антыкамуністычным задзіночаньні дэмакратычных сілаў паняволеных народаў, якое ёсьць ведамае пад назваю «Прамэтэй». Гэтае задзіночаньне адыйграла вялікую ролю ў справе кансалідацыі антыкамуністычных сілаў унутры Савецкага Саюзу, а таксама для заваяваньня даверу, спачуцьця і дапамогі з боку дэмакратычных дзейнікаў Захаду. Выключна вялікая роля належыцца Аўгену Гегечкоры ў тварэньні й дзейнасьці г. зв. Парыскага Блёку нерасейскіх народаў СССР.

У змаганьні за волю свайго народу Гегечкоры бязь хістаньняў заўсёды ахвяроўваў усё найдаражэйшае ўлучна з собскім аўтарытэтам і здароўем.

Прыпамінаецца, як аднаго разу падчас другой сусьветнай вайны, выяжджаючы ў Швэцыю й Фінляндыю, ён з гарыччу прызнаваўся, што цалком сьведамы няўдзячнай ролі, якая выпала на ягоную долю, а якая можа яму прынесьці маральныя шкоды. Але ён ня мог дазволіць сабе ня выкарыстаць хоць аднэй найменшай нагоды, якая магла-б прынесьці помач ягонаму народу, які меў незадоўга апынуцца пад ваеннай акупацыяй. Гэтую ахвяру поўнасьцю можна зразумець толькі тады, калі ўзяць пад увагу, што дэмакратычны сьвет у той час знаходзіўся ў саюзе з панявольнікам усіх народаў — камуністычным Крэмлём.

Важна адзначыць, што Гегечкоры заўсёды ўважаў неабходным знайсьці супольную мову із запраўды дэмакратычнымі коламі расейскага народу. Гэтым выясьняецца той факт, што пры першай нагодзе, калі Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму ўзяў на сябе ініцыятыву задзіночаньня дзеючых антыкамуністычных сілаў народаў Савецкага Саюзу для супольнага змаганьня з крэм-

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

# Напярэдадні вялікіх вырашэньняў

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

### V. НЯМЕЧЧЫНА НА ШЛЯХУ ДА ПОЎНАГА СУВЭРЭНІТЭТУ

Справа поўнага сувэрэнітэту для Заходняй Нямеччыны знайшлася ўзноў на парадку дня і ёсьць шмат дадзеных, што яна хутка можа быць разьвязаная ў духу нямецкіх патрабаваньняў.

Як ведама, г. зв. генэральны дагавор, падпісаны перад двума гадамі ў Бонн між Заходняй Нямеччынай, ЗША, Вялікабрытаніяй і Францыяй і ратыфікаваны ўжо ўсімі ягонымі партнэрамі за выключэньнем Францыі, гарантуе Заходняй Нямеччыне поўную незалежнасьць і адкліканьне акупацыйнага статуту. Але гэты дагавор зьмяшчае ў сабе кляўзулю, што ён можа ўвайсьці ў жыцьцё толькі пасьля зрэалізаваньня дагавору аб эўрапэйскай абароннай супольнасьці.

Але паколькі асталося мала надзеі, што эўрапэйская армія будзе створаная, у Заходняй Нямеччыне ўзмоцніліся дамаганьні разьдзяліць дзьве гэтыя справы і даць Нямеччыне поўную незалежнасьць, ня гледзячы на тое, паўстане эўрапэйская армія ці не. Кампанію дзеля зьліквідаваньня ўзаемнай залежнасьці абодвых дагавораў распачалі меншыя партыі ўрадавай кааліцыі і сацыялдэмакратычная апазыцыя. Апошнімі днямі прылучыўся да яе й канцлер Адэнаўэр, заяўляючы, што ў 9 год пасьля заканчэньня вайны Нямеччына ня можа болей чакаць на здабыцьцё незалежнасьці. Амэрыка, якая таксама пачынае траціць надзею на паўстаньне эўрапэйскай арміі, заняла прыхільнае становішча да дамаганьняў Нямеччыны і выказалася ўжо вуснамі Айзэнгаўэра і Дальлеса за прывярненьне Нямеччыне поўнага сувэрэнітэту незалежна ад лёсу эўрапэйскай арміі.

Гэтая справа набірае асаблівага значэньня ў сувязі з тым, што як Заходняя Нямеччына атрымае поўны сувэрэнітэт, яна гэтым самым атрымае права пакнікаць собскую армію безь якой-небудзь перашкоды звонку. Такое разьвіцьцё сытуацыі можа змусіць Францыю ратыфікаваць дагавор аб эўрапэйскай абароннай супольнасьці, бо гэта будзе тады адзіная магчымасьць перашкодзіць паўстаньню незалежнай нямецкай арміі. У выпадку-ж далейшага нератыфікаваньня Францыяй гэтага дагавору, справа эўрапэйскае арміі можа быць назаўсёды пахаваная. Затое тады паўстане незалежная нацыянальная нямецкая армія, якая ўвойдзе непасрэдна ў вабаронную сыстэму Атлянтычнага пакту.

☆

Бачым тады, што ў сяньняшні якраз мамэнт на шалі міжнародных падзеяў важыцца цэлы рад справаў першараднага значэньня, а іхнае канчальнае разьвязаньне зьяўляецца справай найбліжэйшых тыдняў і навет дзён.

(-іч)

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

3)

**ПАЭМА**

**(Працяг)**

V

Час падходзіў за Пакровы.
Вецер ліст зь лясоў атрос,
І на поле свае ковы
Кінуў зьлёгенька мароз.
Агалела поле. Зьнята
Збажына зь яго даўно.
Глуха, пуста і зацята,
І нікога ня відно.
І ціхутка, бы ў магіле,
Зьвіс нязрушана туман
І свае валокны-крыльле
Абапёр на той курган.
Адзінотай і пустэчай
Ўсюды веяла з палёў,
Нейкай млявасьцю старэчай
Аддавала ад лугоў.
Жыцьцё ўнікла. Бы ў жалобе,
Неба цьмілася, зямля;
Толькі ў руневай аздобе
Вочы песьціла ральля.
У такі час наш музыка
Пасьвіў стадка авячок.
Ціха, глуха, ані зыку.
Сеў пад хвойкай пастушок,
А авечкі рунь шчыпалі
Каля лесу тут адны
Ды трывожна пазіралі
І пужаліся яны.
Але іх такая ўдача:
З глупства пудзяцца, бягуць,
Камень, хвойку, куст убачаць,
Капытамі землю б'юць.
І Сымонка зь іх сьмяяўся:
— Вось дурныя, ха-ха-ха!
Куст ім страхам паказаўся! —
Пад гаворку пастуха
Заспакойвалася стадка,
І час зноў праходзіў гладка.
Але сёньня надта пудкі
Штось авечачкі былі.
— Ну, што з вамі, мае шуткі?
Што вы ў головы ўзялі? —
Гаварыў Сымонка зь імі,
Дый самога страх шугаў,
І трывожна ён вачыма
Поле, хвойнік азіраў.
— Ці ня воўк іх тут пужае? —
Толькі так памысьліў ён —
І затросься ўвесь Сымон:
Воўк зь ялоўцу вылятае
Ды ў авечкі проста садзіць,
Злы, разьюшаны, бы кат,
І дзе хлопцу зь ім тут зладзіць,
Бо такі драпежны гад!
Пасьць разьзяўлена, зубата,
Сам вялізны і сівы,
Хіб адкочан, шэрсьць паднята,
Нават клык відаць крывы, —
Вельмі страшны з галавы!
Драпанула раптам стадка,
Аж па полі пашоў грук,
А ён — хоп за карк, лапатку
Ці за горла і — каюк!
Воўчым зубам чуць кранецца
Ці грудзінай дасьць упол —
Ні адна не страпянецца,
Трупам кінецца на дол!
Зь немым крыкам перапуды
Хлопчык кінуўся туды.
— Га! ага! Ты-га, паскуда!
Людзі, воўк! Сюды! сюды!
Разагнаў усіх зьвяруга,
Трох на месцы палажыў,
А баранчыка схапіў
І панёсься ў лес, зладзюга!
І такі быў страх блазноце!
З крыку ён зусім ахрып,
Перасохла хлопцу ў роце,
І язык яго прыліп,
Ня мог вымавіць і слоўка,
Пабялеў, як той папер.
Ох, нагнала ліха воўка,
Што-ж рабіць-чыніць цяпер?
Страх і жаласьць агарнулі,
Плача горкімі сьлязьмі.
Людзі гэты плач пачулі,
Зь лесу едучы з дрыўмі,
І на крык хоць беглі жыва,
Ды ня ўпору ўжо прышлі:
Пазьбіраць авец пудлівых
Толькі хлопцу памаглі.
Гнаў Сымонка рэшту стадка,
А самога страх шугаў:
Не даруе яму татка,
Што авец ня ўпільнаваў!
Чула сэрца, што праборкі
І папругі ня мінуць,
Што скрось столь убачыць зоркі,
Як наджэгі зададуць.
А аб тым, што ён нявінен,
І ня думаў хлопчык тут:
Хіба-ж быў яму адчынен
Справядлівы бацькаў суд?
Але-ж не! ён скажа: «Тата!
Крукам я стаяў, глядзеў,
Ды зьнянацку воўк праклятый,
Як той віхар, наляцеў.
Я гукаў, ахрып ад крыку.
«Га-а!» Ён голас тут падаў,
Ды ў яго хрыпаты, дзікі
Голас з грудзяў вылятаў.
Толькі-ж дома не паверацьь,
Ох, раскоціцца там гром!
Не хацеў-бы ні вячэраць,
Ні паказвацца і ў дом.
Ішоў хлопчык у трывозе,
Замаркоціўся, прыціх,
А прад ім вязьлі на возе
Трох авечак няжывых.
Вот сяло ўжо недалёка,
Затрымаўся ў полі ён.
Унь іх хата, і высока
Шэст убіт каля вакон.
Вось спыняюцца мужчыны
І авец у двор нясуць,
На спатканьне ім з адрыны
Два дзядзькі яго бягуць,
Штось гавораць... там і маці...
Людзі сыпнулі туды...
«Ну, прапаў ты, Сымон браце!
Ой, бяды будзе, бяды!»
А вось чэша дзядзька Юрка.
— Добра выпасьвіў авец!...
Дзе-ж баранчык?... Ось і шкурка,
Ось і мяска... маладзец!
Страты — добрая палова...
Скубянуў, дык скубянуў! —
І больш дзядзька ані слова,
Толькі поглядам кальнуў,
Сам пагнаў у двор авечкі,
А Сымон адзін зусім,
Торбу зьвесіўшы праз плечкі,
Ідзе воддалек за ім,
Ды маўклівы, бы акуты
Гэтым горам і бядою.
І бязьмернаю жудою,
Да зямлі быў дух прыгнуты.
Вось і дворык іх і хата,
Людзі ў весьніцах, дварэ;
Шуму-гоману багата,
Нейкі рух усіх бярэ.
А туман, імгла пустая,
Цяжка зьвісла над сялом.
Хлопчык цьмяна памятае,
Што тварылася кругом.
Так абрыўкі зьяў-малюнкаў,
Слоў ня зьвязаных нічым,
Недарэчных вырахункаў, —
Ўсё вілося перад ім.
—Але ўсе-ж папарываны!
Ты-ж чаго глядзеў? дзе быў?
**Вужу, гадзе шальмаваны,**
Лепш цябе-б ён задушыў! —
Бацька ў роспачы, у злосьці
Кінуў жмут калючых слоў,
Не чакаць, няма мілосьці,
Але ён на ўсё гатоў:
Будуць лаяць — няхай лаюць,
Будуць біць — няхай і б'юць, —
Тыя грозьбы ня пужаюць
І ня кратаюць нічуць.
Усяму, усім староньні,
Ён стаіўся ў кут адзін,
Ён нібы ў пустым бяздоньні
Стаяў некалькі часін.
— Што стаіш там, як закляты?
Гора ты нам, ня дзіця!
Кажа маці: — ідзі ў хату,
Недапека ты, куцьця! —
І ўздыхнула. Мусіць матцы
Шкода стала бедака,
Трэба-ж к сыну хоць азвацца;
А йдзе бацька з хлявушка,
Ён узбураны, сярдзіты,
Бровы ссунуты на нос...
— Годзі ўжо, Панас, ня бі ты,
І так розум ён растрос.
— Вон адгэтуль, каб і смроду
Мне твайго тут ня было!
Ты штодзень мне робіш шкоду,
З-за цябе і на сяло
Паказаць мне брыдка вочы!
Бяры скрыпку, смык і — вон!
Ідзі з дому, куды хочаш —
Больш ня сын ты мне, Сымон! —
Хлопчык, зьмешаны з гразёю,
З дому выгнаны, стаяў

# Падвойны працэс русыфікацыі ў БССР

У артыкуле «Палітыка разгону», зьмешчаным у папярэднім нумары «Бацькаўшчыны», мы сьцьвердзілі, што адным із сяродкаў русыфікацыі, якую сыстэматычна практыкуе Крэмль над паняволенымі ім нерасейскімі народамі, зьяўляецца ягоная палітыка разгону: масавыя прымусовыя й «дабравольныя» высяленьні й перасяленьні гэтых народаў. Мы там паказалі, што ў дачыненьні да беларускага народу ўжо адбылося аж пяць фазаў такіх высяленьняў і перасяленьняў. Прыпомнім іх тут коратка: 1. прымусовыя высяленьні беларускага сялянства ў пэрыяд калектывізацыі й раскулачваньня ў 1930 годзе; 2. прымусовыя вывазы з Заходняй Беларусі пасьля заняцьця яе бальшавікамі ў 1933 годзе (як ведама, адбыліся тры такія вывазы: а) з 10 на 11 лютага 1940 г., б) з 13 на 14 сакавіка 1940 г. і в) з 19 на 20 чэрвеня 1941 г.); 3. прымусовыя вывазы на ўсход Беларусаў, абвінавачваных у супрацоўніцтве зь Немцамі і рэпатрыянтаў зь Нямеччыны пасьля заканчэньня апошняй вайны; 4. дабравольныя перасяленьні Беларусаў пераважна каталіцкага і часткава праваслаўнага веравызнаньня ў Польшчу, якія мелі месца таксама пасьля апошняй вайны; 5. «дабравольныя» перасяленьні Беларусаў на асваеньне пустынных прастораў у паўночным Казахстане, на Урале, Сібіры, а таксама на лясныя распрацоўкі ў Карэла-Фінскай ССР, якія адбываюцца ў сучасны мамэнт. Мы ня ўспомнілі пры гэтым вялікага спусташэньня беларускага народу ў пэрыяд яжоўшчыны 1936—1938 г. г., так як гэта былі ня вывазы, як усе папярэднія, але масавыя арышты й расстрэлы. Хаця хваля гэтых арыштаў пракацілася па ўсім Савецкім Саюзе, ня выключаючы й этнаграфічнай Расеі, то ў нерасейскіх саюзных рэспубліках, у тым ліку і на Беларусі, яна мела найбольш масавы характар. Тут ГПУ крывава расправілялася ня толькі зь людзьмі, западазронымі ў тых самых «праступках», якія інкрымінаваліся на ўсей тэрыторыі СССР, але, у дадатку, і за «нацыяналістычныя ўхілы».

На нашае цьверджаньне, што Крэмль шляхам такіх высяленьняў і перасяленьняў рэалізуе сваю нацыянальную палітыку, пайменна праводзіць працэс русыфікацыі, нам могуць закінуць, што нічога падобнага, бо такую самую або падобную праводзіць ён палітыку разгону й на расейскай этнаграфічнай тэрыторыі. Прыгледзьмася тады, ці гэтак ёсьць у запраўднасьці.

Тут неабходна ўзяць пад увагу два аспэкты гэтага пытаньня, калі гэтак можна выразіцца, колькасны і якасны аспэкты.

Калі ходзіць пра першы, колькасны аспэкт высяленьняў і перасяленьняў, дык у нерасейскіх саюзных рэспубліках, у дадзеным выпадку ў БССР, ён быў і ёсьць без параўнаньня больш, чымся ў этнаграфічнай Расеі.

Пачнём па парадку ад калектывізацыі й раскулачваньня. Як ведама, у этнаграфічнай Расеі і да калектывізацыі пераважала да некаторай меры калектыўная — «абшчынная» сыстэма сельскае гаспадаркі. Праўда, з пазьнейшымі калгасамі мела яна вельмі мала аналёгіі, тым ня меней фармальна прынамсі калектывізацыя ў мамэнт яе правядзеньня ўносіла ня шмат новага ў параўнаньні з «абшчыннай» формай. Псыхіка расейскага селяніна не магла тады быць такой адпорнай у дачыненьні да калгасаў, як прыкладам собсьніцкая псыхіка селяніна беларускага, які ня мог ніяк згадзіцца навет з думкай, што ягоны кусок зямлі, атрыманы ў спадчыне ад дзядоў і прадзедаў, раптам можа стацца ўжо не ягоным собскім, а перайсьці ў собскасьць чужую, калектыўную. Таму й супраціў перад калектывізацыяй быў у Расеі ў шмат разоў меншы, чымся ў нас, на Беларусі, а, значыцца, і меншыя вывазы. Як ведама, усе тыя малазямельныя сяляне, паводля афіцыяльнай савецкай тэрміналёгіі, «серадннякі» і «беднякі», якія супраціўляліся перад калектывізацыяй, падпалі пад катэгорыю «падкулачнікаў» і «кулацкіх падпявалаў» (таксама афіцыяльныя тэрміны) і былі выселеныя зь Беларусі разам з г. зв. «кулакамі». Такім чынам працэнт высяленьня падчас калектывізацыі й раскулачваньня быў проста прапарцыянальны да ступені супраціву перад калектывізацыяй. Адсюль просты вывад, што ў пэрыяд калектывізацыі было працэнтова шмат больш выселена на ўсход і на поўнач беларускага сялянства, чымся расейскага.

Другая хваля масавага разгону пасьля заняцьця бальшавікамі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны пракацілася вылучна на гэтых тэрыторыях і часткава ў Прыбалтыцы, дзе адбыўся толькі адзін вываз — перад самым выбухам савецка-нямецкай вайны, тады, калі на заходнябеларускіх і заходняўкраінскіх тэрыторыях мелі месца аж тры такія вывазы. Гэтая хваля вывазаў, рэч ясная, не магла датычыць земляў, паложаных на ўсход ад Рыскае мяжы.

Трэйцяя хваля разгону, ахвярамі якой сталіся абвінавачваныя ў супрацоўніцтве зь Немцамі і рэпатрыяваныя зь Нямеччыны, абняла ўсю Беларусь, тады, калі этнаграфічнае Расеі толькі частку, так як толькі заходняя часьць, адносна невялікая, РСФСР знаходзілася пад нямецкай акупацыяй даўжэйшы час.

Чацьвертая-ж хваля разгону — дабравольныя перасяленьні ў Польшчу — апустошыла вылучна заходнюю часьць Беларусі і Украіны.

Напасьледак пятая й апошняя хваля перасяленьняў — на асваеньне пустынных тэрыторыяў тэарэтычна абыймае ўсю эўрапэйскую тэрыторыю СССР, але практычна яна зьяўляецца найбольш балючай для нерасейскіх саюзных рэспублікаў. Тыя Расейцы, прыкладам, Маскоўскай акругі, што перасяляюцца на Урал, яны з аднэй часткі этнаграфічнай Расеі перасяляюцца ў іншую частку тэйжа Расеі. Затое Беларусы перасяляюцца із сваей бацькаўшчыны на чужыну.

Што палітыка высяленьняў і перасяленьняў савецкімі ўладамі задуманая, як адзін із спосабаў дэнацыяналізацыі нерасейскіх народаў, найлепш могуць сьветчыць перасяленьні Беларусаў і Украінцаў у Польшчу.

Як ведама, гэтыя Беларусы перасяляюцца ў Польшчу, пераважна на г. зв. «земе одзысканэ», як Палякі, на падставе дагавору між Савецкім Саюзам і ягоным польскім сатэлітам, што ўсе жыхары Заходняй Беларусі польскай нацыянальнасьці маюць перасяліцца ў Польшчу. З гэтага дагавору скарыстала вялікая часьць Беларусаў каталіцкага веравызнаньня, а часткава й праваслаўнага, якія, падаючы сябе Палякамі, думалі гэткім спосабам ратавацца ад калектывізацыі й тэрору МВД. Ня можа быць найменшага сумліву ў тым, што бальшавікі дасканала арыентаваліся, што гэта ніякія Палякі, але карэнныя Беларусы. Тымчасам ня толькі не рабілі ніякіх перашкодаў у іхным перасяленьні, гэтым разам узапраўды дабравольным, але й басспрэчна мусілі браць на сябе прынамсі часьць коштаў, зьвязаных зь ім, і гадзіліся на гаспадарскія камплікацыі, якія мусілі быць выкліканыя раптоўным адходам з калгасаў Беларусі значнае колькасьці работніцкіх рук. Дык паўстае пытаньне: для якой мэты было савецкім уладам патрэбнае такое масавае перасяленьне Беларусаў?

Адказ можа быць толькі адзін: зьмяншэньне і аслабленьне беларускага нацыянальнага патэнцыялу на беларускіх этнаграфічных землях. Для Масквы выгадней, калі паважная колькасьць Беларусаў расплывецца ў польскім этнічным моры і нацыянальна засымілюецца, чымся каб беларускі элемэнт на Беларусі быў моцны й кампактны. На месца-ж перасеrange Беларусаў можна прыслаць жыхароў карэннае Расеі для ўмацаваньня тут элемэнту расейскага.

З вышэйшых разважаньняў бачым, што ў працэсе савецкіх акцыяў высяленьняў, часта праводжаных фармальна з розных «аб'ектыўных» прычынаў, гэтыя акты разгону ў шмат разоў зьяўляюцца часьцейшымі й колькасна большымі на Беларусі, як і ў іншых нерасейскіх саюзных і аўтаномных рэспубліках, чымся ў этнаграфічнай Расеі. Таму факт, што гэтыя высяленьні й перасяленьні робяцца ў мэтах рэалізацыі нацыянальнай палітыкі Крэмля, ёсьць бясспрэчным.

Але савецкая палітыка разгону, як вышэй адцемлена, павінна быць разглядана ня толькі ў колькасным аспэкце, але і ў якасным. Справа ў тым, што выселеныя або пераселеныя Беларусы зьяўляюцца згары асуджаныя на нацыянальную сьмерць. Перадусім яны так ці іначай на месцы новага пасяленьня ня могуць жыць кампактнай нацыянальнай масай. Яны зьяўляюцца расьцярушанымі ў расейскай ці іншанацыянальнай кампактнай масе, ня могуць мець з сабою сталага кантакту, значыцца, ня могуць жыць собскім нацыянальным жыцьцём, уключаючыся ў сілу канечнасьці ў чужое нацыянальнае жыцьцё.

Яшчэ горш павінна прадстаўляцца справа з маладым і наступным пакаленьнямі. Ці дадзеная беларуская сям'я апынецца сярод расейскай ці казахскай масы, то дзяцей сваіх яна будзе змушаная пасылаць толькі ў расейскую школу. А пры пасыўнасьці й паступовым заніку беларускага нацыянальнага жыцьця й нацыянальных традыцыяў дома, гэтыя дзеці будуць змушаныя ўключыцца ўжо поўнасьцю ў нацыянальнае жыцьцё расейскае.

Затое Расейцы, пападаючы на Беларусь ці на тэрыторыю іншага нерасейскага народу, ні ў якім выпадку не зьяўляюцца наражаныя на асыміляцыю ў сілу ўпрывілеяванага становішча расейскага народу ў Савецкім Саюзе й расейскай нацыянальнай мяншыні ў нацыянальных рэспубліках. Расейскія дзеці на Беларусі не патрабуюць наведваць беларускіх школаў, бо там ёсьць дастаткова расейскіх школаў, ды нат школы намінальна беларускія зьяўляюцца ў практыцы напалавіну расейскімі. На Беларусі расейская мова зьяўляецца таксама мовай упрывілеяванай, падобна як і ўсякія іншыя дасягненьні расейскай культуры. Таму расьсяленьне Расейцаў сярод іншых народаў Савецкага Саюзу ня толькі ня цягне за сабой аслабленьня нацыянальнай патэнцыі расейскага народу, але наадварот яно гэтую патэнцыю ўзмацняе, бо ўсе гэтыя пераселеныя Расейцы выконваюць нацыянальную расейскую місію, імя якой **русыфікацыя.**

З вышэйшых разважаньняў вывад ясны і бясспрэчны: савецкая акцыя высяленьняў і перасяленьняў, крэмлёўская палітыка разгону зьяўляецца адным з найбольш пасьпяховых спосабаў русыфікацыі, пры гэтым русыфікацыі падвойнай. Адным бокам гэтае русыфікацыі ёсьць само ўжо аслабленьне беларускага нацыянальнага патэнцыялу шляхам высяленьняў зь Беларусі вялікае колькасьці ейных карэнных жыхароў — Беларусаў і насаджэньне на іхнае месца элемэнту чужога, расейскага. Другім бокам гэтае русыфікацыі ёсьць факт, што выселеныя ці пераселеныя Беларусы зьяўляюцца асуджаныя на хуткую асыміляцыю, а населеныя на Беларусі Расейцы ня толькі пад працэс асыміляцыі падпасьці ня могуць, але, наадварот, становяцца місіянэрамі русыфікацыі.

**Алесь Крыга**

## *Памяці Аўгена Гегечкоры*

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

лёўскаю клікаю, Аўген Гегечкоры бязь хістаньняў адгукнуўся пазытыўна на гэты заклік. Ён звычайна ня быў адзінокім у сваіх паглядах. Ідэя выношвалася супольна і супольна праводзілася работа. Роля Гегечкоры ў гэтым была вызначаная ягонай нутранай упэўненасьцю і ягоным дыпляматычным змыслам вялікага патрыятычнага дзеяча. Галоўным матывам, што ўзмацняў ягоную дзейнасьць, было імкненьне да вызваленьня ўсіх народаў, і ў тым ліку ягонай роднай Грузіі. Хоць як-бы ня дыскутаваліся ягоныя апрычоныя ходы, але ніколі ніхто яму ня можа закінуць адхіленьня ад сваей аснаўной мэты. Гэтай работы ён ня спыняў да апошняй хвіліны свайго жыцьця. Ён адыйшоў ад нас у вельмі адказны мамэнт, калі ягоная няўтомная энэргія на вельмі адказным становішчы была нязвычайна патрэбная для завяршэньня справы задзіночаньня ўсіх бяз выключэньня народаў Савецкага Саюзу.

Мы надзвычайна глыбака адчуваем гэтую страту. Наш сум разьдзяляюць усе народы, паняволеныя камунізмам, у тым ліку і ўвесь грузінскі народ.

Перадаючы апошнія разьвітаньні, выказваем цьвёрдую веру, што вызваленыя народы годна ўшануюць ягоную памяць і аддадуць яму належнае месца у пантэоне найлепшых і бескампрамісовых змагароў за свабоду й справядлівасьць.

Над сьвежаю магілаю нашага Гегечкоры старэйшае й малодшае пакаленьне ягоных аднадумнікаў і супрацоўнікаў прыракаюць супольна прадаўжаць змаганьне за справу вызваленьня Грузіі і ўсіх народаў Савецкага Саюзу ад камуністычнага рабства.

**А. Арсенідзе**

Каля пуні пад страхою
І ў мрок ночы пазіраў.
Ён ня плакаў — зьніклі сьлёзы,
Яны ўсе — на дне душы.
А дзесь вецер вербалозы
Над балотам варушыў.
А ён глух, ня чуў нічога.
А куды йсьці? да каго?
Ён ня меў нідзе нікога,
Хто-б схіліўся да яго.
Пастаяўшы, хлопчык рушыў,
Пералез знаёмы плот,
Скрыпку ўзяўшы, і патрушыў
Упярод і ўсё ўпярод.
— Трэба, бацька, ведаць меру!
Хіба так ён вінават?
Дзе яму даць рады зьверу?
Ідзі кліч яго назад! —
Сэрца маткі ня ўтрывала:
— Хлопец з страху пабялеў,
Перапудзіўся ня мала,
За дзень гэты пастарэў.
— От, няхай там паскавыча;
Ня дзе дзенецца, ня йдзі:
Зьмерзьне, сам, нябось, прысмыча;
Сядзь ты лепей і сядзі. —
Толькі-ж маці не ўсядзела,
Вышла ціхенька на двор.
— Дзе ты — клікнула нясьмела.
Неба цёмнае бяз зор
Няпрыветна пазірала,
Цьма халодная маўчала,
Матцы кідала дакор
І папрокі ёй за тое,
Што пакрыўдзілі сынка.
І за што? за так пустое —
Ці-ж ухілішся ваўка?
Хлопца выгнаць, проціў ночы!
— Го-о, Сымон! — і ціха зноў!
І глядзяць дарэмна вочы
Па куточках між платоў;
Вышаў бацька. — Ідзі ў хату.
Ня туляйся, а то — дам!
Чуеш! слухаць трэба тату!
Што хаваешся ты там?
Нябось, бачу! — Ды нічога
Ён ня бачыў і ня чуў.
А мрок-багна строга-строга
Неба, землю агарнуў.
Бацькаў гнеў даўно мінуўся.
Як ні страшыў ні гукаў,
Ды Сымонка не вярнуўся,
Слыху-голасу ня даў.

**ЧАСЬЦЬ ДРУГАЯ**

**I**

Калі вясною
Над зямлёю

Раняла сонейка праменьні,
Яно сказала ім тады:
«Ляцеце, промені, туды,
На баль мой выклічце стварэньні,
Ўдыхнеце дух ім малады,
Цяплом сагрэйце і каменьні,
Няхай зямля на ўсе лады
Сьпявае радасьць адраджэньня,
Няхай там зьнішчыцца суценьне,
Адбітак сьмерці і жуды».

І косы тыя
Агнявыя,

Свайму пакорныя закону,
Ляцяць зь нязьмераных вышынь,
І жыватворная іх плынь
Зьняла цямраную заслону —
Зацяты сон нямых пустынь. —
Выходзь, зямля, з свайго прыгону
Разьвей ты сон і чары скінь!
І ткуць праменьні ёй карону;
З свайго надземнага амбону
Яе вянчае неба сінь...

Адна палоска,
Сонца коска,

Калі пустэлі пралятала,
Сустрэла хмарку на пуці.
«Спыніся промень, не ляці:
Сагрэта ўжо зямная гала,
Мяне ты, промень, асьвяці!»
Яна ад холаду прыжала
І нікла ў жудаснай муці.
Праменю сонца шкода стала
Прыгожай хмаркі, што ўмаляла
Ёй косы сонцам заплясьці.

І ён спыніўся
І схіліўся

Перад няшчасьцем хмаркі Божай:
Яна — адна, навокал — жуд,
Пякельны холад, мрок і мут.
І кінуў промень блеск свой гожа,
Нібы стварыў ён зь ёю цуд:
Зазьзяла хмарка так прыгожа,
Што хто ні бачыў яе тут,
Зьвясьці вачэй зь яе ня можа.
Ён зь ёю дзеліць падарожжа,
Але завуць яго на суд.

За што? За тое,
Што сьвятое

Парушыў сонца прыказаньне
І, не дасягнуўшы зямлі,
Куды ўсе пасланы былі,
Каб зьнішчыць цьмы там панаваньне
Адстаў сваволна ад сям'і,
Разьліў сваволна сваё зьзяньне
У цемры хмарчынай ральлі.
«Блукай-жа ты ў пустой далі!»
Ён быў асуджан на выгнаньне
І на бясконцае блуканьне
Паміж нябёсаў і зямлі.

Ноч над сьветам панавала.
Поле жудасна маўчала
І халоднай цішынёй
Няпрыветна сустрачала
Тых, хто з скрыўджанай душой
Смутак нёс свой, сваё гора
У сьвет гэты, гэту даль,
Каб расьсеяць на прасторы
Сьлёзы горкія і жаль
І ў дарозе між крыжамі
Гэты жаль узгадаваць,
Потым песьнямі, сьлязамі
Людзям зноў яго аддаць.
Шоў Сымонка на спатканьне
Змроку, цемрадзі палёў,
У круг гора і блуканьня
Мусіць лёс яго павёў.
І ён шоў — куды? ня ведаў
Ды аб тым і ня пытаў;
Пад убогі крыжык дзедаў
Неўзаметкі прыблукаў.
Тут ён толькі схамянуўся,
Стаў патрошку разважаць,
Пудка ў страсе азірнуўся —
Глуха могілкі маўчаць!
Ён прысеў на край магілы,
Скрыпку з боку палажыў
І заплакаў. — Дзедка мілы!
Ты адзін у сьвеце быў,
Да каго я прыхіляўся,
Ты адзін мяне ня гнаў
І ня крыўдзіў, не сьмяяўся
І ў нядолі памагаў.
Голуб сівы мой! ачніся,
Пашкадуй мяне, дзядок! —
Плакаў хлопчык, і ліліся
Градам сьлёзы на пясок.
Плача, бедны, прычытае,
Вуха к долу прыхіне,
Ды маўчыць зямля сырая
І ў зацятай цішыне
Прычытаньне замірае.
Змогся хлопчык, абясьсілеў,
Толькі ўсхліпваў ды ўздыхаў.
Ён сьлязамі жаль свой выліў,
Смутак імі спаласкаў.
І яму так лёгка стала,
Як-бы што яго ўзьняло
І так ціхенька гайдала
І так лёгенька нясло.
Вось узьняўся над крыжамі
І паплыў, паплыў, паплыў!
Толькі ветрык за вушамі
Ціха-ціха захадзіў.
А ён дальш усё нясецца,
Хмаркі гоняцца за ім
І сьмяюцца, ён сьмяецца
Сьмехам радасным такім,
А над імі сонца зьзяе,
Іх цалуе, як дзяцей,
І праменьні пасылае
Сустракаць сваіх гасьцей.
Лёгка, вольна і лагодна,
Бы на крыльлях сьветлых мар,
Ён лятае так свабодна
У клубох купчастых хмар.
Але раптам стала зьмена:
У багне пустых глыбінь
Бурнай плыні коціць пена
І чарнее неба сінь,
Нікне сонца ў чорным муту,
Хмаркі спуджана бягуць,
І зь мінуты на мінуту
Сьвет затопіць тая жудзь.
А ён больш ляцець ня можа,
Страх яго апанаваў.
Толькі-ж чуе — гэтак гожа
Хтось на скрыпцы заіграў.
І вярнулася зноў сіла
Страху ськінуты гужы.
Азірнуўся — зноў магілы
І пахілыя крыжы.
А на прыкладзе драўляным
Бачыць — сівенькі дзядок,
Дзед Курыла, ў бель убраны,
Галаву схіліў набок
І ўсё грае, ды так гожа,
Як ніхто яшчэ ня граў.
Ці ня дзедка з падарожжа

# Уладзімер Жылка

## Пясьняр Змаганьня й Характва

**(З АЎДЫЦЫІ РАДЫЯ «ВЫЗВАЛЕНЬНЕ» 15 ЧЭРВЕНЯ СЁЛЕТА)**

Дваццаць адзін год таму, у канцы травеня 1933 году, памёр ад сухотаў у далёкім бальшавіцкім выгнаньні беларускі паэта Уладзімер Жылка, жыцьцё і творчасьць якога былі аддадзены свайму народу.

Жылкава паэзія была выражэньнем настрояў, імкненьняў і думак таго пакаленьня, якое ўлучалася ў жыцьцё ў часы змаганьня, у пару беларускай нацыянальнай рэвалюцыі 1917 году, прывёўшай да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году. Тут была крыніца ідэйнай моцы Жылкавых твораў, бальшыня якіх увайшла ў зборнікі: «Уяўленьне», «На ростані», «З палёў Заходняй Беларусі» і паэму «Тэстамэнт», напісаную на выгнаньні.

Тэма Беларусі прыкавала паэтаву ўвагу ўжо ад самага пачатку, ён аддаў ёй свае найлепшыя пачуцьці і спадзяваньні, усю сваю душу зь ейнай радасьцяй і болем. Гэта была вітаная Купалам «Маладая Беларусь», ад імя якой лірычнае «Я» Жылкавай паэзіі выяўляла — «Я юнак Давід», ды захаплялася рухам, поступам у будучыню, чуючы, як на разложыстых прасторах ягонай бацькаўшчыны «Пяруны завірух у захапленьні грымяць аб адным — паўнагучна — Адраджэньне». У закаханасьці да роднага краю быў «пачатак веры, высачыня натхненьня», там было пазнана, «як прыгожа бязьмерна сьвет дзівосны».

Жылка ішоў у літаратуру зь юнацкай паэтызацыяй змаганьня за нацыянальнае заўтра Беларусі. У 1922 годзе ён піша паэму «Уяўленьне», запачаткаваўшы ёю новую плынь у беларускай паэзіі пад назовам «Узвышэнства». Праз «Уяўленьне» праходзіць глыбокая народная ідэя: беларускі рух укарануецца ажыцьцяўленьнем сваей канцовай мэты — поўным нацыянальным вызваленьнем пад стаpaвечным сьцягам Беларускай Пагоні. Ідэя твору вынікае з самога жыцьця, а ягоную мэтаімклівасьць становіць рэвалюцыйна-нацыянальны рух ад самага пачатку аж да завяршальнага мамэнту, калі ў часе Сакавіковага Акту 1918-га году «На мапу Эўропы ўзыйшоў Беларус», калі няўмерлы народны дух, прарваўшы часы «сьцюжы скутыя — сягнуў тварыць», «мужыцькіх душ зьявіў красу і бель».

> Народ, свабода і радзіма, —
> На ўсё прыйшла адна чарга.

Вобраз воя, змагара за Беларусь, ператтвараецца ў паэты ў носьбіта вышэйшага чалавечага характва, якое ў Жылкавым сьветаглядзе займае вылучнае месца.

Характва ў яго разуменьні не вяло ў бок ад жыцьця, а вабіла й кідала чалавека ў глыбінныя проймы вірлівага, творчага жыцьця. Таму ён і зьвяртаўся да Мадоны:

> Ў бai жыцьцёвым
> Адвагі прыдай,
> Надзеі словам
> Мяне прывітай.

Жылкава характва ішло поруч зь ягоным змаганьнем, падыймала чалавека духова, часта было крыніцай духовай моцы, патрэбнай для таго вышэйшага, што мае імя Бацькаўшчына. Індывідуальнае духовае чалавечае характва становіць адну часьціну, праяву характва нацыянальнага, празь якое выяўляецца характва агульналюдзкае.

Жылка йшоў праз жыцьцё з мужнай закаханасьцяй у волі. Прымірэньне зь «лёсам раба зь бязвольля ўласнага й басьсільля» для яго было найстрашнейшым «скрозьдонным падзеньнем чалавека».

Вось з гэтакімі настроямі і пераканаьнямі Жылка воляю лёсу ў канцы 1926 году апынуўся ў Савецкай Беларусі. З зацятай варожасьцяй паставілася да ягонай творчасьці савецкая крытыка, уедліва ўпікаючы паэту за ягоны ўзвышаны нацыянальны ідэалізм ды за тое, што ён ня сьпяваў гымнаў бальшавізму.

Пры першым дотыку паэты да афіцыйнай савецкай рэчаіснасьці адразу паўстаў разлад зь ёю. Паэта-ідэаліcты ня мог прыняць афіцыйнай бальшавіцкай лініі, якаяператварала яго ў лякайскага прыслужніка загадаў ды дамагалася «раскахаць родныя краскі і неба». Паэту апаноўвае «аб высокім туга», ён піша верш «Цяжэй ланцугоў», зь якога вырываецца крык болю зьняволенага тыраніяй чалавечага «Я»:

> Цяжэй ланцугоў лятуценьні,
> Іх зьнішчыць мне сіл ня прымець.
> Як вязень у доўгім вязеньні,
> Стаміўся я песьняй зьвінець.

У 1929 годзе Жылка ўступае ў вапазыцыйнае да бальшавікоў літаратурнае згуртаваньне «Узвышша», а праз год, калі распаношыліся арышты беларускага нацыянальнага актыву, аднаго зь першых арыштоўваюць і яго — зусім хворага, ды ў 1931 годзе высылаюць у Уржум, былой Вяцкай губэрні.

Перад самай сьмерцяй на выгнаньні Жылка, прыкаваны да ложка хваробай, піша сваю ведамую паэму «Тэстамэнт», якая належыць да найлепшага, што было ім створана.

«Тэстамэнт» — гэта ня толькі разьвітаньне з жыцьцём, зь ягоным «ранкам срэбраросым» ды з «днём клапот, пакут» — гэта найперш жывая, усхваляваная, гранічна абвостраная ў канцовую часіну собскага жыцьця закаханасьць у «дабрадзейку зямлю», у ейныя «дзівосных сіл жывыя тоні», у чалавека — «высокі плод зямлі і сонца», што гэтак гарманійна спалучаецца і канцэнтруецца ў вобразе бацькаўшчыны. Гэтай самаадданай, высокай закаханасьці да Беларусі ня вынішчылі ў паэты ні эміграцыя, ні арышт, ні зьняволеньне ў падвалах НКВД, ні выгнаньне ў чужую — паўночную зямлю. Гэтая закаханасьць прарывала цемру зьняволенага выгнаньня ды яднала паэту аж да апошняй часіны ягонага жыцьця з сваім народам, якому ён праз скутыя духовай сьцюжаю аддалі слаў сваё апошняе вітаньне:

> Няхай жыве Крывіцкі люд!
> Няхай квітнее край Крывіцкі!

Ня поўныя 33 гады пражыў Уладзімер Жылка. Ягонае жыцьцё ад юнацкіх гадоў было ўлучанае ў рэвалюцыйна-нацыянальнае змаганьне. Ліхія сілы бальшавізму заўчасна зьнішчылі гэтага чалавека, сіламоцай абарвалі яго талент, як кінулі і тысячы іншых талентаў Беларусі пад свой крывавы бот.

**Я. Менскі**

**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# Зь песьняй у міжнароднай сям'і камбатантаў

Пару гадоў таму назад у Парыжы заснавалася Міжнароднае Задзіночаньне былых Камбатантаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, якое ўсьцяж павялічвалася і сяньня абыймае аж 12 народаў. У Задзіночаньне ўваходзяць: Азэрбайджанцы, Баўгары, **Беларусы,** Грузіны, Казакі, Летувісы, Мадзяры, Палякі, Паўночныя Каўкасцы, Румыны, Славакі і Ўкраінцы. Яно паставіла сабе за заданьне супрацоўніцтва паміж народамі на культурнай ніве, пазнаньне мінуўшчыні кажнага з народаў, а таксама пытаньняў, якія кранаюць мяжуючых з сабой народаў, інфармацыі пра жахлівыя зьдзекі бальшавізму і рэпрэзэнтацыю навонкі перад палітычным і вайсковым сьветам Захаду ладжаньнем дакладаў, выставак і артыстычных вечароў ды г. п.

Вось 11 чэрвеня сёлета быў ладжаны такі вечар з удзелам артыстычных сілаў уваходзячых у Задзіночаньне нацыянальнасьцяў. Беларускай рэпрэзэнтацыі з Парыжа ня было іншага выхаду, як зьвярнуцца да Студэнцкага Ансамблю ў Лювэне за дапамогай. Нашыя студэнты, як заўсёды, гатовыя славіць Беларусь, запросіны прынялі і хоць ня цэлым Ансамблем, а толькі часткай яго прыехалі ў Парыж, дзе было зробленае надта скромнае, але з чыстым сэрцам шчырае спатканьне.

Вечарам гэтага-ж дня вялікая заля „Arcle Militaire" была перапоўненая публікай, якая ў бальшыні складалася з высокіх палітычных і вайсковых прадстаўнікоў Францыі і іншых народаў Захаду, а таксама народаў, якія прыймалі ўдзел у арганізацыі вечару.

Адна за аднэй выступалі паасобныя групы — кажная зь іх мела штосьці арыгінальнае і адначасна прыемнае для ўсіх. Але вось сьпікер абвесьціў, што група беларускіх студэнтаў выканае некалькі беларускіх народных і патрыятычных песьняў. Тут увага прысутных Беларусаў з асаблівым напружаньнем зьвярнулася на сцэну, жадаючы пабачыць і пачуць штосьці сваё роднае.

Скромная група ў белых вышываных кашулях пад кіраўніцтвам сп. Кіслага прыемна рэпрэзэнтавалася на сцэне. Хутка пачуліся мэлёдыі: «Партызанцкая», «Янка», «Паласа»» і «Пагоня». Хоць трохі ціхае, — бо ансамбль ня быў у поўным складзе і да таго пяяў без акампаньямэнту — але беззаганнае выкананьне прыгожых мэлёдыяў пакінула на слухачох глыбокае ўражаньне. Аб гэтым сьветчылі некаторыя, калі, пасьля артыстычнай часткі вечара, пазнаўшы на залі ўдзельнікаў хору, зьвярталіся да іх на французкай або ангельскай мовах, кажучы: «Вы добра пяялі, маладыя людзі!» А сам старшыня Задзіночаньня Камбатантаў, палкоўнік Лянскоронскіс (Летувіс) у прысутнасьці ўсей студэнцкай групы сказаў: «Калі-б існавалі ўзнагароды за выступленьні, дык першая ўзнагарода належылася-б Вам, Беларусам».

Выступы іншых былі таксама добрыя, можна сказаць выдатныя, і многія сабралі шмат больш воплескаў, але шмат зь іх выконваліся прафэсыйнымі сіламі ды некаторыя ня мелі нічога супольнага з жыцьцём свайго народу, ня мелі свайго нацыянальнага характару.

Пасьля артыстычных выступаў адбылася танцавальная вечарына аж да раніцы з добра зарганізаваным буфэтам амэрыканскай лятарэяй.

Раніцай, змучаныя бяссоннай ноччу, вярталіся нашыя студэнты ў Лювэн, каб далей працаваць над кніжкай, бо эгзамены на носе. Дык вялікая пашана і ўдзячнасьць ім і сп. Кісламу за іхную ахвярнасьць, а таксама ўсім тым асобам, якія спрычыніліся да рэалізацыі гэтага выступу.

**Камбатант**

### БЕЛАРУСКА СКОНЧЫЛА АМЭРЫКАНСКІ ЎНІВЭРСЫТЭТ

Маладая беларуская патрыётка сп. Вера Жызьнеўская, якую вецер выкінуў за берагі Беларусі, апынулася ў горадзе Пэорыя, Ілінойс, ЗША, і скончыла цяпер Брэдлей-Унівэрсытэт. Беларускія патрыёты ў васобе сп. Чарапука-Змагара, былага Міністра Надзвычайных Справаў БНР, злажылі ёй свае гратуляцыі.

# Паклон Кіцелю Мао

**(Заканчэньне з 5-ай балоны)**

ма ніякага «духовага сваяцтва», ня можа быць нічога супольнага і, значыцца, ніякага «прабачэньня», — пашто-ж першым аддавацца самаабману, станавіцца «ідэйнымі спадарожнікамі» апошніх?

Бо-ж адарваць васальны Пэкін ад Масквы ня ўдасца ніякім парлямэнтарам, бо камуністычны рэжым устаноўлены там, **як і ў іншых сатэлітных краінах,** дзякуючы тэй самай Маскве. Можна (і трэба!) папрабаваць пастунаць наадварот. Аўтарытэтны знаток бальшавізму і свайго народу нябожчык Бердзяеў яшчэ ў 1936 г. у вадным эсэі пісаў, што камунізм — **чыста расейскае зьявішча.** Карэньні ягоныя глыбака ўваходзяць у расейскую душу, у расейскую гісторыю, у расейскі мэсыянізм, які замяняе сабою рэлігійнае пачуцьцё.

«Хворае сумленьне нашае» (Горкі). Дастаеўскі яшчэ задоўга да рэвалюцыйных уструсаў у сваіх прарочых творах прадбачыў прыход камунізму ў Расеі.

У нашых спасылках на Бердзяева і Дастаеўскага няма й ценю намеру абразіць Расейцаў. Відаць, вялікія народы, як і вялікія людзі, у сілу якойсьці нутранай супярэчнасьці, бываюць часамі **вялікімі** ня толькі ў добрым, пазытыўным, творчым.

---

Небясьпекі ўсюды поўна, —
Не, туды йсьці ня з рукі.
Дый сабакі там ліхія, —
Далей лепш пайсьці адсюль.
Ён мінае хаткі тыя,
А ў жывоціку — буль-буль!
Слабасьць чуе, млеюць ногі,
Але йдзе — куды? зачым?
Трудны першыя парогі,
А што далей будзе зь ім?
Так ідзе ён, а зь ім поруч
Думак коціцца клубок.
Раптам нікне ў сэрцы горач —
Унь кудзеліцца дымок!
Як ён мілы і павабны,
Толькі й можа знаць пастух.
Тчэцца сіні шнурядабны
І спакойны такі рух!
Сам агонь у полі тлее,
Нікагусенька няма.
Хлопчык зразу весялее, —
Духам падаў ён дарма.
Зьнікла гора, як-бы труска,
Дым зьнёс цяжкую думу;
Будзе хлопчыку закуска,
Будзе сьнеданьне яму!
Бо на полі бульбы многа,
Бульбы можна напячы.
І бярэ тут рух малога,
На агонь нясе карчы.
Чуць агоньчык разгарэўся,
Ён — у бульбу на загон;
Так капае, аж угрэўся,
Бо свой клопат — ня прыгон.
Бульба ў прыску, а над прыскам
Бурна полымя гарыць
З шумам трэскам, зь нейкім піскам,
Бы зь ім хоча гаварыць.
Той агоньчык разгараўся,
Бойка полымя шугаў,
З-пад карчажкі выбіваўся,
Тонкай стужачкай зьвіваўся,
І паленцы ахінаў;
І дымок пагульваў жвава,
Гнаў клубочак за клубком,
Браў улева, вараўся ўправа,
Бег раўнюсенькім слупком
У прасторы горныя сьветаў
І губляўся там, зьнікаў...
Жартаўнік агоньчык гэты!
Дзе-ж наўперад ён блукаў?
Думаў хлопчык: Ён — цікавы.
Дзе-ж ён быў? Дзе будзе зноў?
Ён і злосны і ласкавы,
Ён спакойны і рухавы,
Ён і стар і вечна ноў.
Ён патухне, а жыць будзе...
Хіба ў ім жывы дух ёсьць?
Я-ж у сьвеце толькі госьць,
Як і госьці ў сьвеце людзі...
Дзіўна гэта, страх цікава,
Я-б хацеў быць сам агнём:
Я-б дымком па небе плаваў,
Па зямлі-б хадзіў сьвятлом. —

Дагарэлі дровы —
Полудзень гатовы.

У Сымонкі баль ды годзі,
Ён усеўся на калодзе,
Ён у лесе, бы ў гасподзе.
А настольнік — пласт імшысты
Ды прыгожы, ды іскрысты,
З густам вытканы і чысты.
Тыя ніткі зямля прала,
Тую пражу сонца ткала.
Коскі сонца хлопцу служаць,
А бульбінкі толькі тужаць:
Ён ня можа іх адужаць,
Аж зайздросьцяць яму сойкі,
Штось сярдзіта сьвішчуць з хвойкі,
Справа чуць ня йдзе да бойкі.
І мурашак бярэ дзіва,
Прыпаўзьлі сюды маўкліва,
Пазіраюць уніклiва,
Пасваему б'юць у лапкі,
А Сымон сядзіць бяз шапкі,
Бульба тая смачней бабкі.
Узмацніў хлапчынка сілы,
Уздужаў ён і ажыў, —
Тут куточак такі мілы,
Так ён добра паслужыў!
Нават кідаць яго шкода.
Ён прысеў на гладкі пень.
Зацішна, і ў сэрцы згода, —
Хоць сядзі тут цэлы дзень.
Ён сядзіць, а ў ім штось грае,
Нейкіх сьпеваў шум дзіўны,
І няма ім канца-краю,
Ім валодаюць яны.
Дзе-ж ён чуў іх? І адразу
Ноч успомніў тут Сымон,
Постаць, дзеда́ву выразу,
І ўсё, што навеяў сон.
Ён наладзіў скрыпку жыва,
Чуць крануўся струн смычок,
Звонкіх зыкаў пераліў
Поўняць лес, маладнячок.
Сьвет забыў цяпер Сымонка,
Скрыпцы душу ўсю аддаў,
І пашла-пашла гамонка —
Лес сьмяяўся і рыдаў.
А скрыпіца галасіла
Смутнай восені дажджом,
Адчувалася ў ёй сіла,
Што лілася ручаём;
І адразу адрывала
Сьпеў магутнасьці яна,
Каб зноў квола задрыжала
Яе чуткая струна.
Граў Сымонка і часамі
Смык ад скрыпкі аднімаў
І кудысь у глыб вачамі
Пільна-пільна пазіраў,
Потым зноў ён ачынаўся;
Сэрца білася ў грудзёх,
І агоньчык запаляўся
Ў яго кругленькіх вачох.
Зноў над скрыпкаю жалобна
Смык хадзіў, бы штось раняў,
І сьлязамі дробна-дробна
Лес, дуброву напаўняў.
Хлопчык змоўк і здрыгануўся,
Аж падскочыў: перад ім
Сіві дзед стаіць, сагнуўся,
Вокам моргае сьляпым!
Страшны, бледны, абарваны,
Жыцьця пасынак, бядак,
На ім торбы і лахманы,
У руцэ кій — то жабрак.
— Хто ты, хлопча? — дзед пытае:
Чый сынок? якіх бацькоў?...
Ну-ж і хлопец! Моц сьвятая!
Маладзец, каб я здароў!
Тваё граньне гоіць раны,
Ну й мастак ты, хоць малы! —
Хлопчык бачыць — дзед рахманы,
Хоць і страшны, ды ня злы,
Але што сказаць адразу:
Праўду вылажыць? салгаць?
Дзед стаіць і жджэ адказу,
Потым зноў давай пытаць.
— Я... так... хлопец... падарожны,
Празь сябе сам... Я... нічый! —
І пры гэтым асьцярожна
Ён зірнуў на дзедаў кій.
— Як-жа гэта: сам сабою? —
Дзед уськінуў плячуком: —
Ты-ж ня вырас пад вярбою
Ці ў бары баравіком?
— Я дзядок прагнаны з хаты
І іду... куды? у сьвет! —
Больш зьдзівіўся дзед кудлаты,
Развaжае нешта дзед.
— Гм, хлапчынка: сьвет вялікі.
А прыпынку ў ім няма,
Прападзеш, бы яблык дзікі,
Цяпер восень, там зіма.
Дзе-ж ты дзенешся зімою?
Хто табе прытулак дасьць?
Эх, спазнаешся зь бядою!
Эх, шырока яе пасьць!
Горка, горка давядзецца,
Ты старога запытай.
Ой, часамі так прыпрэцца,
Што хоць рэпачку сьпявай!
А на сьвеце, хлопча, ўсякіх
Многа знойдзецца людзей.
На пахілых і сабакі
Брэшуць злосьней і гарэй...
Як-жа ты надумаў, дзеткі?
— А ня ведаю... ніяк...
— Го, то кепска, мая кветка! —
Галавой матнуў жабрак.
Змоўк дзядок, маўчаў Сымонка,
Апусьціўшы вочы ў дол,
А стары разважыў тонка
І так кажа: — Што-ж, сакол,
Вось што я табе параю,
Каб ня траціць лішніх слоў:
Я стары і лепей знаю,
Што рабіць, каб я здароў!
Пойдзем, хлопча, маім шляхам:
Будзе нам латвей удвух;
Ты ня будзеш жыць пад страхам,
Што злы голад выне дух.
У мяне-ж ёсьць свая хатка,
Нажабруем, купім дроў;
Печ прыгорне нас, як матка,
Добра там, каб я здароў!
І ня трэба чыёй ласкі,
Хай сабе трашчыць мароз,
Мы расказваць будзем казкі —
У мяне іх цэлы воз.
— Ну, а біцца дзед ня будзе?
— Што ты?! не, каб я здароў,
Каб памёр на гэтым грудзе!
— Калі так, то я гатоў. —
Дзед сядае на калоду,
І, заместа барышу,
Дае сальца малышу,
Каб азначыць тую згоду.

(Далей будзе)

# Трашчыць па усіх швах

**(ДА АПОШНІХ ПАДЗЕЯЎ У БЦР І БВР)**

У радох Беларускай Цэнтральнай Рады й ейных прыхільнікаў ад пачатку сёлетняга году адбываецца войстры нутраны канфлікт, які ў сваім выніку прывёў да фактычнага развалу БЦР і войстрага падзелу ейных сяброў і прыхільнікаў на дзьве ўзаемна варожыя групы. Дагэтуль мы нічога аб гэтым ня пісалі і пісаць ня зьбіраліся, бо ані БЦР, ані ейнае прыбудоўкі БВР (г. зв. «Беларускі Вызвольны Рух») мы не ўважалі за салідныя арганізацыі, якія кіраваліся-б нейкімі ідэялягічнымі прынцыпамі ды праводзілі-б пазытыўную нацыянальную работу. Таму для іх проста шкода было фатыгі і месца ў газэце.

Але апошнім часам мы атрымалі цэлы рад пісьмаў ад нашых чытачоў, пераважна з Аўстраліі, з просьбаю паінфармаваць іх аб запраўднай сутнасьці заіснаваўшага канфлікту між Астроўскім і Зарэчным. Выконваючы іхную просьбу, мы ніжэй і адкрываем ведамыя нам закулісы гэтае справы ў парадку аб'ектыўнае інфармацыі.

Пакуль БЦР — гэты зложаны з адных палітычных авантурнікаў штаб зарубежніцтва — магла праводзіць сваю дзейнасьць у лягерах ДП у Нямеччыне, то хаця ніякай пазытыўнай работы ніколі не праводзіла, аднак рабіла ня мала шуму якраз у сэньсе нэгатыўным. Выкарыстоўваючы нясьведамасьць некаторае часткі эміграцыйных масаў ды іграючы на русафільскіх настроях некаторых зь іх, ёй удавалася часамі навет паважна шкодзіць пазытыўнай нацыянальнай рабоце аўтарытэтных беларускіх арганізацыяў.

Але пасьля выэміграваньня ў заакіянскія краіны аснаўной часьці нашае эміграцыі, гэтая «маса» пакінула палітыканства, бо трэба было ўзяцца за фізычную працу на собскае ўтрыманьне. БЦР страціла тады грунт пад нагамі і асталася арганізацыяй бяз «масаў». Трэба было гэтыя «масы» нейкім спосабам стварыць. І нагода надарылася хутка. Ведамы такі-ж самы авантурнік і чалавек зь цёмнай мінуўшчыняй, «палкоўнік» Л. Зарэчны закладае ў пачатку 1952 году сваю «вайскова-палітычную» арганізацыю «Беларускі Вызвольны Рух», у якой згуртавалася пару дзесяткаў людзей сумліўнай беларускасьці і пару дзесяткаў былых беларускіх вайскавікоў, людзей сумленных і патрыятычна настроеных. Гэтыя апошнія трапілі ў арганізацыю Зарэчнага або дзякуючы сваей нясьведамасьці, або дзякуючы шчыраму жаданьню працаваць па вайсковай лініі, бо Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў, у якім маглі-б «выжывацца» гэтыя людзі, праяўляе непрабачальную бязьдзейнасьць.

Верхаводы БЦР, у першую чаргу сам Астроўскі, і пастанавілі апанаваць БВР, каб такім спосабам прыдбаць сабе гэтак ім патрэбныя «масы». Зарэчны назначаецца тады віцэ-сэкратаром Калегіі БЦР, а ягоны БВР афіцыйна падпарадкоўваецца БЦР і пасылае сваіх дэлегатаў на 13-ты пленум БЦР. Усё, здавалася, было ў найлепшым парадку: БЦР здабыла сабе «масы», а Зарэчны й ягоны БВР — «аўтарытэтнага» палітычнага пратэктара.

Аднак гэтая сялянка Астроўскага з Зарэчным трывала нядоўга. Летам мінулага году «Бацькаўшчына» зьмясьціла на сваіх балонах фотокопію арыгіналу мэмарыялу Л. Зарэчнага да сэнацкай камісіі Мэк Кэрты, Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму і Мельгунова, як старшыні аднаго з двух асколкаў КЦАБ-у, у якім быў зьмешчаны правакацыйны данос, што бальшыня сяброў Рады БНР знаходзіцца на службе бальшавіцкага шпіянажу. Хаця ў рэдагаваньні гэтага даносу прыймалі ўдзел і іншыя сябры БЦР, у тым ліку і сам Астроўскі, аднак паданьне гэтага да публічнага ведама было поўнай кампрамітацыяй якраз БЦР. Таму нічога не аставалася, як віну за ўсё зваліць на Зарэчнага, які падпісаў успомнены данос. У тым-жа нумары «Бацькаўшчыны» быў таксама зьмешчаны другі рэвэляцыйны дакумэнт — фотокопія арыгінальнага ліста Л. Зарэчнага да Рыжага-Рыскага ў Мадрыдзе. У гэтым лісьце Зарэчны падаваў аб самым сабе, што ён перад вайной працаваў у «сыстэме НКВД» на Беларусі, падчас вайны знаходзіўся на службе нямецкай разьведкі, цяперака працуе для разьведкі «аднэй заходняй дзяржавы» і просіць Рыжага-Рыскага, каб яго ўстроіў на працу ў гішпанскай разьведцы. Значыцца, прафэсіянальны агент усемагчымых разьведак узначальвае «вайскова-палітычную арганізацыю» БВР і зьяўляецца віцэсакратаром Калегіі БЦР. Факт, які ня мае сабе прэцэдэнсу сярод хоць трохі салідных і шануючых сябе арганізацыяў наагул.

Але Зарэчны робіць у міжчасе яшчэ адзін фокус, ізноў ад імя свайго БВР, а церазь яго і ад імя БЦР. Пасьля таго, калі КЦАБ развалiўся на дзьве часьці: часьць дэмакратычную і часьць рэакцыйна-чорнасоценную на чале зь Керэнскім—Мельгуновам, Зарэчны із сваім БВР прыступае да гэтай апошняй часьці КЦАБ-у, які, аднак, даведаўшыся, што зь сябе прадстаўляе Зарэчны, заяву ягоную аб прыняцьці ў КЦАБ адкідае, баючыся кампрамітацыі.

Усяго гэтага было ўжо за шмат навет і для некаторых сяброў БЦР, што знаходзяцца ў ЗША, і яны робяць на Астроўскага націск, каб апошні адсунуў Зарэчнага ад БВР, але самую арганізацыю ўтрымаў у рамах БЦР. Астроўскі, хочучы-ня хочучы, мусіў падпарадкавацца націску сваіх сяброў з Амэрыкі і 5 лютага сёлета заявіў Зарэчнаму, што звальняе яго із становішча начальніка галоўнага штабу БВР. Але Зарэчны гэтай пастанове не падпарадкаваўся, а назначаны Астроўскім на ягонае месца заступнік Зарэчнага В. Сенька гэтага назначэньня ня прыняў. У сваім «Звароце» з 18 лютага сёлета Зарэчны цьвердзіць, што БВР зьяўляецца арганізацыяй самастойнай і не падпарадкаванай БЦР ды што далейшы ейны лёс мае вырашыць «агульны ўсеэміграцыйны зьезд БВР», які мае быць скліканы не пазьней ліпеня—жніўня сёлета.

Гэткім чынам Астроўскі і ўся БЦР асталіся ўзноў бяз «масаў». Палажэньне аказалася на столькі клапатлівым і бязвыхадным, што калі ўсе дэмакратычныя арганізацыі эміграцыяў з за зялезнае заслоны, у тым ліку й беларуская група, што стаіць на пазыцыях Рады БНР, раньняй вясной сёлета выйшлі з АБН у сувязі з таталітарна-фашыстаўскай палітыкай апошняга і на ейнае месца была прынятая БЦР на чале з Астроўскім, дык апошні ня мог знайсьці даслоўна аніводнага Беларуса, які быў-бы ягоным сталым прадстаўніком у АБН. І тут выйшла трагікамічная гісторыя: Астроўскі зьвярнуўся пісьмова да капітана С. Гоха з просьбай рэпрэзэнтаваць яго ў АБН, таго Гоха, які дагэнуль быў у АБН якраз прадстаўніком толькі што выйшаўшай зь яго беларускай БНР-аўскай групы. Дык зразумела, што апошні ня мог тады задаволіць просьбы Астроўскага, і ў АБН адсутнічае і сяньня сталая дэлегацыя БЦР.

Уваход Астроўскага ў АБН якраз у мамэнт, калі гэтая арганізацыя афіцыйна аформілася, як таталітарна-фашыстоўская і павяла антыамэрыканскую палітыку і калі дэмакратычныя арганізацыі паняволеных народаў — дагэнуляшнія сябры АБН зь яго выйшлі, канчальна папсуў і так невялікую рэпутацыю навонкі і Астроўскага і БЦР. Для нікога ня ёсьць бо сакрэтам, што палітычныя дзейнікі Захаду сяньня да АБН ставяцца выразна нэгатыўна. Факт уваходу Астроўскага ў АБН, пасьля афэры з Зарэчным, таксама выклікаў не малы фэрмэнт у радох БЦР. Там цяпер зарысаваліся што наймяней два супярэчныя кірункі: часьць сяброў БЦР, як Сабалеўскі, Касяк і Коўш, выступаюць становча супраць Зарэчнага, іншыя-ж сябры, між імі А. Русак, Зарэчнага падтрымліваюць. А сам Зарэчны тымчасам «унезалежніўся» і, вызнаючы і надалей БЦР за «дзяржаўны ворган», дамагаецца «ачысьціць БЦР ад элемэнтаў, тармозячых справу вызвольнае барацьбы нашае нацыі». Ня цяжка здагадацца, што гэтымі «элемэнтамі», ад якіх дамагаецца Зарэчны «ачысьціць БЦР», зьяўляюцца ў першую чаргу Астроўскі, Сабалеўскі і Касяк.

У БЦР трашчыць, як кажуць, па ўсіх швах. Бо вось усьлед за БВР «унезалежніваецца» ад БЦР і г. зв. «Згуртаваньне Беларускіх Патрыётаў», якое ў вапошнім 1—2 нумары свайго воргану «Беларускі Патрыёт» выступае войстра супраць БЦР, цьвердзячы, што яна знаходзіцца «на парозе развалу», але з другога боку ня выказвае асаблівага падтрыманьня й для БВР Зарэчнага. Выглядае, што беларускія «патрыёты» ўжо «ўнезалежніліся» ці толькі яшчэ думаюць «унезалежніцца» поўнасьцю. Праўда, гэтая арганізацыя зьяўляецца сьмяхотлівай пародыяй арганізацыі, кіраванай двумя безадказнымі асобамі — Попкам і А. Даніловічам (якія, здаецца, зьяўляюцца і адзінымі сябрамі гэтае арганізацыі пасьля ўцёкаў да бальшавікоў трэйцяга яе сябры савецкага шпіёна Юрэвіча). Але на бязрыб'і і рак рыба! Пры адсутнасьці ў БЦР «масаў», і гэтыя два «патрыёты» былі для яе не абы якой падпорай.

Гэтак гора-палітыкі БЦР дакаціліся, як кажуць, да ручкі, а іхная арганізацыя БЦР увайшла ў стадыю свайго поўнага развалу. Развал гэты, аднак, натуральны й зразумелы. Такі лёс ніколі ня мінае арганізацыяў і палітычных групаў, якія, як БЦР і БВР, абапіраюцца не на цьвёрдых ідэялягічных прынцыпах, але на авантурніцкім апартунізьме і ахвотна прыймаюць на сябе ролю дывэрсіі для розных вонкавых палітычных сілаў.

**Р. С.**

# Для ушанаваньня Купалавай гадавіны

**Дзеля ўшанаваньня 12-ай гадавіны з дня сьмерці найвялікшага нашага нацыянальнага паэты, Прарока беларускага адраджэньня й духовага Правадыра беларускага народу ЯНКІ КУПАЛЫ Выдавецтва «Бацькаўшчыны» выпускае вялікі зборнік найлепшых і найхарактарыстычнейшых выбраных ягоных твораў пад агульным загалоўкам «СПАДЧЫНА». Зборнік будзе абыймаць звыш 500 балонаў друку вялікае васьмёркі: тэксты Купалавых твораў, якія абыймаюць роўна 494 балоны, ужо надрукаваныя; астаецца толькі яшчэ надрукаваць уводны крытычна-біяграфічны артыкул аб Купале ды розныя іншыя дадатковыя часьці, што вынясе прыблізна 40—50 балонаў друку. Зборнік друкуецца на добрай паперы, будзе мець прыгожую каляровую вокладку і, апрача тэкстаў твораў, будзе зьмяшчаць чатыры рэпрадукцыі фотоздымкаў Купалы з розных пэрыядаў ягонага жыцьця і чатыры фоторэпрадукцыі, зьвязаныя зь ягонай творчасьцю. Апрача гэтага на пачатку будуць пададзеныя кароткія даведкі аб жыцьці і творчасьці Купалы ў ангельскай, францускай, нямецкай і гішпанскай мовах.**

**Зьмешчаныя ў зборніку творы Купалы, паводля свайго зьместу й літаратурных жанраў, зьяўляюцца разьбітыя на наступныя разьдзелы:**

- **I. «НАША ВЁСКА»: 32 вершы;**
- **II. «ПА МЕЖАХ РОДНЫХ»: 51 верш;**
- **III. «ЗАБРАНЫ КРАЙ»: 38 вершаў;**
- **IV. «УЖО ДНЕЕ»: 14 вершаў;**
- **V. «НА СХОД»: 17 вершаў;**
- **VI. «СВАІМ І ЧУЖЫМ»: 29 вершаў;**
- **VII. «БЕЗНАЗОЎНАЕ»: 42 вершы;**
- **VIII. «ШЛЯХАМ ГАДОЎ»: 39 вершаў;**
- **IX. «ДЛЯ ЯЕ»: 38 вершаў;**
- **X. «САТЫРА»: 16 вершаў;**
- **XI. «ПАЭМЫ»: 10 паэмаў («На Куцьцю», «Курган», «Забытая скрыпка», «Урывак з паэмы», «У купальскую ноч», «На Дзяды», «Чараўнік», «Грабар», «Магіла Льва», «Паляўнічы й пара галубкоў»);**
- **XII. «ДРАМАТЫЧНЫЯ ПАЭМЫ»: 3 паэмы («Адвечная Песьня», «Сон на Кургане», «На папасе»);**
- **XIII. «СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ — перасьпеў Янкі Купалы.**

**Такім чынам зборнік зьмяшчае разам 330 найлепшых паэтыцкіх твораў Купалы, некаторыя зь якіх зьяўляюцца вялікімі творамі; прыкладам, драматычная паэма «Сон на Кургане» абыймае 72 балоны друку.**

**Так як зборнік «СПАДЧЫНА» ўжо вельмі хутка выйдзе з друку й паступіць у прадажу, заклікаем нашых суродзічаў падпісвацца наперад на ўспомнены зборнік, высылаючы за яго належнасьць на адрас Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» ў паасобных краінах або непасрэдна на адрас Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне.**

**ЦАНА ЗБОРНІКА:**

**1. На добрай паперы ў мяккай папяровай вокладцы — 8 амэрыканскіх даляраў.**

**2. На добрай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы зь няпрымацаванай папяровай вокладкай зьверху — 10 амэрыканскіх даляраў.**

**3. На бліскучай люксусовай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы зь няпрымацаванай папяровай вокладкай зьверху — 12 амэрыканскіх даляраў.**

**Ува ўсіх іншых краінах, паза Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі, раўнавартасьць выжэй пададзенай даляровай сумы ў мясцовай валюце.**

**З гледзішча на вялікую колькасьць найлепшых выбраных Купалавых твораў, як і добрае з тэхнічнага гледзішча выданьне — гэта будзе першае такое салiднае й рэпрэзэнтацыйнае выданьне твораў Купалы, выданьне, якога мы ня мелі яшчэ на Бацькаўшчыне. Таму выданьне гэтага зброніка станецца не малой падзеяй у нацыянальным жыцьці нашае эміграцыі. Дык кожны Беларус і кожная Беларуска павінны ў час парупіцца, каб набыць сабе гэтую прыгожую й цэнную кніжку.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# «Акцыя»

Гарэлі ў тыя дні ня толькі што кляны —
сквярлося на вагні усё, на што ёсьць слова.
І ранаў з гэных дзён нялюдзкіх і дзіўных
ніякаю замовай не замовіш . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Ськідалі ў сутаргах з намоклага гальля
апошнія лісты прысады ў золь і мокрадзь . . .
Як прыгаршню лісьця іх кінулі на пляц
і латы жоўтыя пайшлі лістамі ў скокі . . .
Выў вецер . . .
Але й ім казалі засьпяваць
і праз часіну ўсе і пляскалі й сьпявалі:
прысеўшы на бруку, брахаў у самы твар
ім кулямёт загады стальлю.
Каб дагадзіць яму —
чырвоным языком
пачаў лізаць вагонь бажніцу . . .
аж у неба
шугнулі з дымам Торы, талесы ускок, рыўком,
маўляў скакаць пайшлі у тахт із рэбэ.
А рэбэ, што-ж, сьпяваў . . .
рыпелі, як жарства
пад пятамі скакух, і ўсе . . .
і толькі Ёсель,
хоць маці тузала яго: «сьпявай»,
біў пустку пясткамі, заходзіўся і тросься.
Біў пясткамі й тады, калі апёк агнём
бізун дзіцячы твар,
калі асела маці
на брук снапом аўсяным,
калі ён
папоўз, маўляў шчанё ў прыпол яе схавацца,
калі пайшлі зьдзіраць зь дзявочых шый і рук
каралі гардыя і ўпартыя пярсьцёнкі,
калі, як з крапяжа, паплыў з крывёй на брук
іх енк прарэзьлівы і тонкі,
калі усьцешны шум зьмяшаўся увушшу
зь пякучай роспачай,
апаў на сэрцы жудзяй . . .
Ён плакаў . . .
а вакол, здавалася, душу
Ў вапошняй песьні высьпеваюць людзі . . .
Так прычакалі змрок.
Папоўз асеньні дзень
за восяці . . . Тады
усім далі лапаты.
І зашуршэў, заплёхаў па вадзе
пясок важкі і макраваты . . .
Гадзіны дзьве брахаў у золкасьць кулямёт,
аж заліла яму ноч ляпу чорным лякам.
Спыніла лёт лісьцё, сплыло на целаў сплёт,
і навет Ёсель сьціх,
ужо ня плакаў.
І з пад павек яго, хоць ён ня знаў Хрыста,
глядзеў Хрыстос з тугой нянаскаю, дзівоснай
на тых, каму зь пяску крывавага ня ўстаць,
на катаў у крыві . . .
слату . . .
і восень . . .

**Н. Арсеньнева**

## *Залатая восень*

Вісяць на дрэвах залатыя лісьці.
Ад сьпелых яблык пах прыемны мёду.
Да выраю буслы зьбіраючыся плысьці
крыламі вёслаў плешчуць неба воду.

Пакрыліся шаўковістым узорам
у павуціньні нітак поле, сенажаць.
Як маякі на беразе ля мора,
стагі маўклівыя разгублена стаяць.

Згасае сонца ў цёплы дзень васеньні,
плывуць ад воблакаў зямлёю цені,
у сэрцы губячы трывожныя сьляды.

Пара васеньняя праходзіць залатая.
Каліна полымем чырвоная шугае,
у сонцы ласкавым купаюцца сады.

**Ул. Клішэвіч**

**Слуцак, 1944**

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне паведамляе, што ўсе тыя нашыя суродзічы, якія хочуць эміграваць у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, але ня маюць яшчэ ашурансаў і надзеі атрымаць іх ад сваякоў або знаёмых, павінны падаць аб сабе Галоўнай Управе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку наступныя дадзеныя: 1) Імёны і прозьвішчы, 2) чысло нараджэньня, 3) месца нараджэньня (вёска, горад, дзяржава), 4) нацыянальнасьць, 5) сямейны стан, 6) прафэсія, 7) стан здароўя, 8) заўвагі (калі такія будуць). Сьпіскі сем'яў з вышэйшымі дадзенымі трэба напісаць лацінкаю і накіраваць непасрэдна ў БАЗА паводля адрасу:

Mrs. Inna Ritter
60—07 56 Drive,
Masphet, Long Island. New York. USA

**Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне**

# Нявуковая канфэрэнцыя

**ІНСТЫТУТУ ДЛЯ ДАСЬЛЕДВАНЬНЯ ГІСТОРЫІ Й КУЛЬТУРЫ СССР (ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ІНСТЫТУТУ І)**

Каля ста ведамых навуковых работнікаў эміграцыі й Захаду ў галіне палітыкі, гісторыі, эканомікі і філязофіі, пражываючых у сучасны мамэнт у ЗША, Канадзе, Францыі, Італіі, Ангельшчыне, Турэччыне, Заходняй Нямеччыне і іншых краінах заходняга сьвету, зьбяруцца на навуковую канфэрэнцыю ў Мюнхэне, якая арганізуецца й праводзіцца Інстытутам для Дасьледваньня Гісторыі й Культуры СССР.

10 ведамых экспэртаў эканомікі і палітыкі Савецкага Саюзу прачытаюць даклады аб камуністычнай ідэялёгіі і тактыцы Крэмля ў замежнай і нутранай палітыцы, паддаўшы аб'ектыўнай аналізе зьмены, заіснаваўшыя ў гэтых галінах пасьля сьмерці Сталіна.

Аднэй із аснаўных тэмаў канфэрэнцыі зьяўляецца нацыянальная палітыка савецкай кіруючай верхавінкі, як у рамах усяго Савецкага Саюзу, гэтак і ў паасобных нацыянальных рэспубліках.

Рад навуковых работнікаў і дасьледавальнікаў, належачых да розных нацыянальнасьцяў, пражываючых на тэрыторыі Савецкага Саюзу, возьме ўдзел у ўсебаковым асьвятленьні гэтага пытаньня.

Апрача дакладаў у ходзе канфэрэнцыі прадугледжываюцца выступленьні апанэнтаў і дыскусіі, у якіх будуць прыймаць удзел удзельнікі канфэрэнцыі.

Арганізатар гэтай канфэрэнцыі, Мюнхэнскі Інстытут для Дасьледваньня Гісторыі й Культуры СССР, быў заложаны ў 1950 годзе, пры ўдзеле шырокага кола антыкамуністычных работнікаў, прыняўшых удзел у ягонай рабоце незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасьці і тэй ці іншай палітычнай накіраванасьці. Мэтаю Інстытуту зьяўляецца аб'ектыўнае навуковае дасьледваньне ўсіх праблемаў сяньняшняй савецкай запраўднасьці. Вынікі гэтых дасьледваньняў Інстытут прадстаўляе ў распараджэньне свабоднага сьвету, для таго, каб шырокія колы ягоныя заўсёды мелі магчымасьць ствараць аб'ектыўнае ўяўленьне аб усім, што творыцца за зялезнай заслонай. Інстытут праводзіць сваю работу пры падтрыманьні Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму.

Кіраўніцтва Інстытуту надзеіцца, што гэтая надыходзячая канфэрэнцыя зьявіцца прыкладам сумеснай навуковай работы прадстаўнікоў розных народаў СССР і дасьць Захаду новыя й аб'ектыўныя дадзеныя аб усім, што творыцца ў Савецкім Саюзе.

**(Прэс-Бюро)**

*

**АД РЭДАКЦЫІ: Як даведваемся, навуковая канфэрэнцыя Інстытуту, аб якой гаворыцца ў зьмешчаным вышэй камунікаце, адбудзецца ў Туцінгу каля Мюнхэну, у днях 5, 6 і 7 ліпеня сёлета. Аб ейным прабегу, паведамім у наступным нумары нашае газэты.**

---



---

# КАМУНІКАТ

**БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА АНСАМБЛЮ**

1. Даводзім да ведама нашых суродзічаў, што ўрэшце выйшлі з прадукцыі дзьве спозьненыя грамафонныя пліткі (большы разьмер). Прычыны спазьненьня былі чыста тэхнічныя. У хуткім часе гэтыя пліткі будуць разасланыя паводля заказаў. Адначасна паведамляем, што з папярэдняга запасу засталося толькі колькі камплетаў, і таму зацікаўленыя мусяць сьпяшацца з заказамі.

2. Прыпамінаем, што ў камплеце ёсьць 8 плітак, зь якіх 6 нармальнага разьмеру (25 цм) і 2 — большага (30 цм). Цана аднае пліткі нармальнага разьмеру — 1 ам. дал.; большага разьмеру — 1.60 ам. дал. Цана поўнага камплету — 9 ам. дал. бязь перасылкі, а зь перасылкай і апакоўкай у заакіянскія краіны — 12 ам. дал.

Пры разасланых плітках большага разьмеру будуць далучаныя разьлікі з паданьнем поўнага кошту ўсіх перасланых дасюль плітак. Пасьля атрыманьня гэткага разьліку ветліва просім урэгуляваць яго неадкладна.

3. Стараньнямі ЦБАА наш Ансамбль насьпяваў колькі **новых плітак, якія ўжо хутка (праз колькі тыдняў) выйдуць з прадукцыі:**

Пліткі 30 цм:

«Дарагая мне староначка»,
«Полька Янка»,
«Падняты родны сьцяг дзяржавы» — у вык. хору.

Пліткі 25 цм:

1. «Лявон»,
«Палыночак» — у вык. ведамага баса Пётры Конюха (выйдзе трохі пазьней),

**Рамансы:**

2. «Лявоніха»,
«Каханая» — у вык. мужчынскага дуэту,
3. «Восеньская песьня»,
«І трэба-ж было здарыцца» — у вык. солё.

Музыка першага рамансу А. Туранкова, словы М. Багдановіча. Да апошніх трох музыку напісаў наш ведамы кампазытар Алесь Карповіч на словы С. Ясеня. Гэта рэчы лёгкія да сьпяваньня, і спадзяемся, што яны хоць крыху запоўняць прабел у беларускай музыцы гэтага жанру.

Цана пералічаных плітак гэткая-ж, як і папярэдняй сэрыі, г. зн. 1 дал. за плітку 25 цм і 1.60 дал. за плітку 30 цм.

4. Гэтак-жа хутка выйдзе з прадукцыі плітка Longplaying з мантажом **«Змагарны шлях»** (прыбл. 40 хвілін). Гэта гісторыя змаганьня беларускага народу за незалежнасьць у прыгожай, жывой мастацкай форме, пераплеценая паэзіяй і шматлікімі песьнямі («Не пагаснуць зоркі ў небе», «Арол», «Партызанцкі марш», «Жалобны Марш», «Песьня беларускіх концлягернікаў» і шмат іншых). Яна заменіць шматлікім Беларусам, адарваным ад сваіх асяродкаў, Акадэміі, ладжаныя ў нацыянальныя сьвяты; меншым асяродкам, дзе адчуваецца недахоп мастацкіх сілаў, яна дапаможа ў ладжаньні гэткіх Акадэміяў; урэшце кажнаму Беларусу яна прыпомніць аб велічы нашай Ідэі, аб ахвярах, якіх чакае ад нас Бацькаўшчына.

Папераджаем, што тыраж мантажу надта абмежаны — толькі 100 плітак. Усе заказы перасылаць на адрыс:

Wl. Butrymowicz,
19, Place H. Hoover, LOUVAIN, Belgique.

**Урад ЦБАА**

---

## ГАДАВЫ СХОД А.Б.Р.Ф. У КРЭЗО

Дня 20. 6. 1954 філія Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі ў Крэзо адбыла свой Гадавы Агульны Сход.

Сход распачаўся рэлігійным гымнам «Магутны Божа», пасьля чаго перайшоў да канкрэтнай працы. Справаздачу з гадавой дзейнасьці зрабіў уступаючы старшыня філіі сп. Нагорны, а справаздачу з касы сп. Булыга. Пасьля гэтага адбыліся выбары новае ўправы, у якую ўвайшлі: старшыня — Юрка Гасьцеяў, сакратар — Міхась Булыга, скарбнік — Францішак Рашкевіч. У Рэвізыйную Камісію выбраныя: старшыня — Браніслаў Нагорны, сябра — Рыгор Захарэвіч.

Сход закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

**М. Булыга**

---

## АСАБІСТАЕ

Спадара Мікалая Лянкевіча, сябру Ўправы Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне, і спадарыню Ганну Карповіч пазадраўляем зь іхным жанімствам (шлюб адбыўся 15. 5. 1954) і жадаем маладой пары ўсякае памыснасьці ў жыцьці сямейным і плённае працы на беларускай грамадзкай ніве. Сто год!

**Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне Управа**

---

## ДА ЎСІХ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

**Беларускі Сэктар Радыя «Вызваленьня» за нашым пасярэдніцтвам зьвяртаецца да ўсіх беларускіх арганізацыяў ува ўсіх краінах расьсяленьня Беларусаў безадкладна, а калі ходзіць пра заакіянскія краіны, лётніцкай поштай, перасылаць кароткія, але зьместоўныя карэспандэнцыі й весткі аб беларускім арганізацыйным жыцьці й дзейнасьці паасобных эміграцыйных асяродзьдзяў дзеля перадаваньня іх на бацькаўшчыну. Карэспандэнцыі гэтыя просіцца перасылаць на наступны адрас:**

**Radio „Liberation", Byeloryssian Desk. München, Lilienthalstr. 2.**

---

## ЗЬМЕНА АДРАСУ

**Спадар Канстанцін Мерляк просіць прыяцеляў і знаёмых у будучыні кіраваць карэспандэнцыю да яго на наступны адрас:**

K. Mierlak,
c/o Byelorussian-American Ass'n, Inc.
180 South 4-th St.,
Brooklyn 11, N. Y. U.S.A.

---

## ДА ЎСІХ НАШЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВАЎ І КАЛЬПАРТЭРАЎ

**З прычыны ранейшых дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне было зарганізаванае Выдавецтвам «Бацькаўшчыны» нашае Фінансавае Прадстаўніцтва ў Лювэне (у Бэльгіі), куды ўсе нашыя Прадстаўніцтвы ў паасобных краінах і Кальпартэры перасылалі выручаныя імі грошы за газэту й кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Цяпер-жа дэвізовыя абмежаваньні ў Нямеччыне ані чуць ня большыя, чымся і ў Бэльгіі.**

**У сувязі з гэтым, каб пазбавіцца непатрэбнае валакіты, мы ліквідуем нашае Фінансавае Прадстаўніцтва ў Лювэне і просім усе нашыя замежныя Прадстаўніцтвы й Кальпартэраў у далейшым перасылаць усе грошы за газэту і за кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны» непасрэдна на адрас нашай Адміністрацыі ў Нямеччыне:**

**Administration der Zeitung „Baćkauščyna", (13 b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude.**

**Адначасна напамінаем, што на паштовым пераводзе трэба заўсёды выразна зазначаць, ці перасыланыя грошы выручаныя за газэту ці за прададзеныя кніжкі і якія (назоў кніг і прададзеная іх колькасьць). Калі-ж будуць перасылацца грошы за газэту і за кніжкі разам, дык на паштовым пераводзе трэба адцеміць, колькі за газэту, а колькі за кніжкі і за якія.**

**Дасюлешняму нашаму Фінансаваму Кіраўніку ў Бэльгіі сп. Янку Жучку выказваем на гэтым месцы нашую шчырую падзяку за ягоную ахвярную працу, беззаганна праводжаную дагэтуль.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

---

# Агульны Сход Аддзелу ЗБВБ у Кэмбрыдж

Дня 6. 6. сёлета, у залі Раўнд Чэрч Голл у Кэмбрыдж, адбыўся Агульны Сход сяброў Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ў Кэмбрыдж. На гэты Сход Управа Аддзелу запрасіла заступніка старшыні Галоўнай Управы ЗБВБ сп. др. В. Рамука зь Лёндану.

Пасьля адкрыцьця Сходу малітваю «Магутны Божа» і прывітаньняў прысутных, старшыня сп. М. Дзямідзік перадаў слова др. В. Рамуку, які зрабіў вельмі цікавы даклад на тэму «Беларуская эміграцыя ўчора й сяньня».

Зь вялікім зацікаўленьнем прысутныя слухалі характарыстыку старой эміграцыі і дынаміку новай, што ў простых і зразумелых словах нарысаваў прэлегэнт.

Пасьля дакладу Сход перайшоў да выбару Прэзыдыюму, у які ўвайшлі сп. Я. Гралеўскі — старшыня і сп. Я. Дварэцкі — сакратар. Справаздачу зь дзейнасьці ўправы Аддзелу зложыў старшыня сп. М. Дзямідзік. Пасьля дыскусіі й выражэньня абсалюторыюму ўступаючай управе, былі праведзеныя выбары новай управы Аддзелу. Праз аклямацыі быў выбраны папярэдні склад управы ў васобах: сп. М. Дзямідзік — старшыня, сп. П. Сахонька — сакратар і сп. В. Гойшык — скарбнік.

Пасьля гэтага сп. М. Дзямідзік парушыў справу прэсы, падчыркваючы асабліва вялікае значэньне й ролю ў вызвольным змаганьні за незалежнасьць Беларусі газэты «Бацькаўшчына», і заклікаў прысутных зложыць ахвяры на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны». **У выніку гэтага было сабрана 3 фунты, 1 шылінг і 6 пэнсаў.** Пастаноўлена таксама вэрбаваць новых падпішчыкаў газэты.

Адыграньнем нацыянальнага гымну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» закончыўся Сход.

**М. Д.**

---

## УВАГА, КАНДЫДАТЫ НА СТУДЫІ!

Прыбліжаецца пачатак новага акадэмічнага году. Асобам, якія жадаюць працягваць асьвету, час ужо пачаць захады аб атрыманьні стыпэндыяў ды аб прыйме на ўнівэрсытэт.

Здабываньне вышэйшай асьветы ў эміграцыйных умовах — хоць рэч нялёгкая, аднак маральна неабходная для ўсіх тых, хто мае адпаведную падрыхтоўку ды жадае даць зь сябе максімум у службе для свайго народу. Ня выкарыстоўваць-жа йснуючых магчымасцяў — гэта ўжо праступак ня толькі перад Бацькаўшчынай, але й перад самым сабой.

У сувязі з тым, што магчымасьці даволі абмежаваныя, просім зацікаўленых неадкладна перасьлаць адпаведныя заявы на адрыс ЦБАА:

Centre des Organisations Universitaires Biélorussiennes à l'Etranger,
19, Place H. Hoover, LOUVAIN, Belgique.

Да заявы далучыць:

1. Кароткі жыцьцяпіс,
2. 2 пашпартныя фотоздымкі,
3. арыгінал або копію пасьветчаньня сьпеласьці (калі няма, выясьніць прычыны),
4. Зацемку, якую галіну веды хоча кандыдат студыяваць.

**Урад ЦБАА**

---

# ШУКАЮЦЬ

**Брата Мікалая Грыцука, сына Піліпавага,** які нарадзіўся 15. 8. 1925 г. у вёсцы Дуброва, Васілевіцкага раёну, Палескай акругі і пад канец вайны прабываў у Гозэнгайм Бадэн, у Нямеччыне. Весткі слаць на адрас:

Mr. Paul Guz. 241 Lorica Ave,
Broadmeadows, Vic. Australia.

*

**Родных і знаёмых** — шукае Мікалай Сіўка зь вёскі Сенна з пад Любчы ў Наваградчыне. Весткі кіраваць на адрас: Nikolaus Siwko, (22b) Pirmasens, Signal Depot, L. S. Co. 4097.

**Галіну й Віталію Фёдараву,** апошнія весткі пра якіх былі з Мэцэрыц (Нямеччына), шукае сваяк. Весткі слаць на адрас: Z. B. K. 49, Lefroy Rd., Kelmscott. W. A. Australia.

---



---

## ПАЧАТНЫ КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У Нью Ёрку, дзе найболей новае беларускае эміграцыі, няма дагэтуль нічагусенькі, што дапаўняла-б беларускім дзецям навуку, атрымліваную ў амэрыканскай школе. Ані беларускія арганізацыі, ані бацькі, ані вучыцялі пра гэта ня рупяцца. Дзеці забываюцца сваё; яны ўжо добра ўмеюць паангельску, але ўжо вельмі блага гавораць пабеларуску, а ёсьць і такія, што зусім пасвойму гаварыць забыліся. Калі так яшчэ патрывае, дык дзеці стануцца ня нашымі. Я найменей маю магчымасьці займацца вучэньнем дзяцей або маладзежы. Але што зробіш?! Каб хоць крыху скрануць зь месца справу і парушыць сумленьне іншых, я ад 8 мая сёлета вяду пачатны курс беларусаведы. Вучу гаварыць пабеларуску, чытаць, пісаць, беларускае гісторыі й краяведы. Вучэньне індывідуальнае. Навука на курсе бывае кажнае сыботы а 3-яй гадзіне ў маёй гасподзе (адрыс: 6, Vandervoort Place, Brooklyn, ехаць падземкаю да Morgan Avenue станцыі). На курс прыймаю хлапцоў і дзяўчат ад 12 да 18 год. Навука дармовая.

**Я. Станкевіч**

---

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

---

# Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
Mr. M. Palashuk, 17 Sparks Ave, Fairfield, Vict., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
Mr. W. Bielmach, 3518 de Bullion St., Montreal, Q. Canada.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec, 2502 W. 7. St.,** Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**